

Уладзімір Жыткоўскі — лепшы электразваршчык Талачынскай МТС Віцебскай вобласці, сакратар камсамольскай арганізацыі.

Мал. А. Волкава.



Група ўдзельнікаў рэспубліканскай нарады перадавікоў сельскай гаспадаркі (злева направа): свінарка калгаса імя Сталіна, Быценскага раёна, Брэсцкай вобласці Вера Карачун, Герой Соцыялістычнай працы, звеннявая па вырошчванню цукровых буракоў калгаса «Шлях да комунізма» Сумской вобласці Украінскай ССР Анна Рудэнка і зоатэхнік калгаса імя Молатава Жабчыцкага раёна Брэсцкай вобласці Ольга Міроненка.



Старэйшы майстар Мінскага трактарнага завода, начальнік кампрэсарнага цэха Леанід Георгіевіч Шыт і фрэзероўшчык комсамолец Міхаіл Сакалоўскі.

Фото А. Дзітлава.



**Токар механічнага цэха Магілёўскага паравознага дэпо Сцяпан Цэдрык на працягу многіх год выконвае месячныя нормы на 200 працэнтаў.** На здымку: **С. Цэдрык за работай.**

Фото В. Калядзінскага.



Артур ВОЛЬСКІ

## ПА СЦЕЖЦЫ

Як хораша
з любай сяброўкаю
з працы
адною сцяжынкаю
ў вёску вяртацца.
Дзівіся, глядзі,
як прыгожа наўкол!
Дыван каляровы
заслаў увесь дол.
Схіляецца сонца
да рэчкі —
к вадзе.
А сцежка
у далеч
вядзе і вядзе.
А вочы
блакітам
фарбуе вясна.
Смяецца хлапец,
і смяецца яна.
Адна толькі ў іх,
у шчаслівых,
бяда:
канчаецца сцежка, —
а як-жа шкада!
Адсюль-бы ім поруч
ісці ды ісці
па сцежцы —
па той,
што праляжа ў жыцці.

На першай старонцы вокладкі: **Група студэнтаў Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта і Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна** (злева направа): **Яніна Брыневічутэ, Альгіс Багдонас і Ірына Кісялёва.**

Фото А. Дзітлава.

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Сад цвіце.**

Фотаэцюд І. Пікмана.



СЯУБА У КАЛГАСЕ

Фото І. Пікмана.

Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання III.

№ 5(26).

Май.

1955.



Аляксей КУЛАКОЎСКІ

# Вясна пяцьдзесят пятага

Мал. А. Волкава.

Марудна, няўпэўнена ішла ў гэтым годзе вясна. Яшчэ ў першыя дні красавіка гракі збіраліся пераважна на дарогах, бо ў другіх месцах ім не было спажывы,— усюды ляжаў снег. Жаўранкі вельмі рэдка падымаліся ў неба і спявалі не з той весялосцю, як звычайна ў гэтую пару. Рэкі доўга сумавалі пад лёдам.

Гэта ў прыродзе. А ў жыцці вясна сёлета пачалася вельмі рана, бадай што намнога раней, чым у мінулыя гады. У шмат якіх калгасах пачалі рыхтавацца да яе ледзь не з самай восені. Рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС яшчэ больш узнялі вясенні настрой калгаснікаў, натхнілі іх на выкананне новых, вельмі важных задач. І яшчэ з большай мэтаімкнёнасцю разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва за лепшую падрыхтоўку да вясны, за паспяховую сустрэчу вялікага дня салідарнасці працоўных усяго свету — свята Першага мая.

Многа асаблівасцей мае цяперашняя вясна ў нашай сельскай гаспадарцы, многа ясных, радасных перспектыў. Трэба дамагчыся ў гэтым годзе значна большага ўраджаю, чым у мінулым годзе, трэба ўзняць жывёлагадоўлю. Неабходна пасеяць многа кукурузы — культуры, якую не надта развівалі ў нас, у Беларусі. У мінулым годзе адводзілася пад кукурузу па гектару, па два, ды і то не ў кожным калгасе. Цяпер калгаснікі ўзялі абавязацельствы пасеяць па пяцьдзесят, па сто гектараў кукурузы на кожны калгас. Паўсталі новыя задачы перад машынна-трактарнымі станцыямі, бо на многія зоны МТС прыпадае да двух тысяч гектараў кукурузы. Пасеяць яе трэба ў пэўны тэрмін, на добра апрацаванай і ўгноенай глебе. А потым-жа гэтую кукурузу неабходна старанна даглядзець — яна любіць догляд, трэба своечасова ўбраць і засіласаваць тысячы тон зялёнай масы. А ў чым сіласаваць яе? У звычайных ямах дрэнны будзе сілас, трэба рабіць цэментавыя.

Вось чаму, напрыклад, у Талачынскай МТС пачалі рыхтавацца да пасеву кукурузы адразу пасля студзеньскага Пленума ЦК КПСС. Механікі сталі думаць над тым, як-жа дапамагчы калгасам у такой важнай справе, як падвесці тэхніку пад новую культуру? І вырашылі, што для маркіроўкі плошчаў можна прыстасаваць культыватары. Можна прыстасаваць таксама і сеялкі для квадратна-гнездавога пасеву кукурузы, толькі для гэтага спатрэбяцца пэўныя дадатковыя прылады.

Актыўна ўключыліся ў падрыхтоўчую работу маладыя механізатары на чале з сакратаром камсамольскай арганізацыі МТС электразваршчыкам Уладзімірам Жыткоўскім. У майстэрні ўсё было зроблена, каб своечасова і добра пасеяць кукурузу і іншыя культуры. Маладыя слесары, токары і трактарысты спаборнічалі між сабою, а калі выйшлі ў поле, тут спаборніцтва прыняло іншыя формы. Цяпер найбольш важным з'яўляецца для іх умелае выкарыстанне тэхнікі на полі. Трэба зра-

Зінаіда Ермалюгіна і Вера Хуцкая.



біць усё, каб атрымаць добры ўраджай. Ініцыятарам спаборніцтва механізатараў выступіла маладая трактарыстка комсамолка Кіма Маханёк. У мінулым годзе яна перавыконвала зменныя нормы больш як у паўтара раза, а цяпер у яе бываюць такія дні, што яна выконвае амаль па дзве нормы на падрыхтоўцы глебы пад кукурузу. Наконт-жа якасці работы самы прыдзірлівы аграном не скажа кепскага слова.

З такой-жа гаспадарскай руплівасцю працуюць комсамольска-маладзёжныя брыгады Аршанскай МТС: Міхаіла Северына, Уладзіміра Шутава, Барыса Чабатарова, маладыя механізатары Копыскай МТС Аршанскага раёна, Ігрушаўскай МТС Крупскага раёна, Прыямінскай МТС Барысаўскага раёна.

Маладзёжныя звенні і брыгады калгасаў выйшлі ў поле з цвёрдай упэўненасцю ў поспехах сваёй работы. Упэўненасць гэтая грунтуецца перш за ўсё на дасканалай падрыхтоўцы да сяўбы. Як, напрыклад, рыхтавалася да палявых работ маладзёжнае ільнаводчае звяно комсамолкі Юліі Карніенка з калгаса «Чырвоны сад» Аршанскага раёна? Участак гэтаму звяну быў адведзены яшчэ з восені. Амаль усю зіму звяно вывозіла на поле гной і торф, збірала попел і курыны памёт для падкормкі пасеваў. Мінулы год быў дажджлівым, сырым. Нялёгка было захаваць у высокім гатунку насенне, сабранае ў такі год. Але звяно захавала насенне ў найлепшай кандыцыі, і не толькі для сябе, але і для іншых звенняў свайго калгаса. Перад высевам усё насенне правяралася на ўсходжасць. Юлія Карніенка сама яго правярала. І калі ў мінулым годзе яна сабрала шэсць з паловай цэнтнераў ільновалакна з плошчы ў восем гектараў, то ў гэтым годзе бярэцца курс на тое, каб сабраць не менш васьмі цэнтнераў.

Кукурузныя звенні ў гэтым калгасе былі арганізаваны крыху пазней, аднак і яны паспелі правесці вялікую падрыхтоўчую работу да сяўбы. У калгасе шэсць такіх звенняў, але першае пахвальнае слова трэба сказаць у адрас комсамольцаў Анатоля Парусава, Тані Лейпуновай, Анатоля Беларускага. Гэтыя энтузіясты першымі адгукнуліся на заклік ЦК ВЛКСМ, уключыліся ва Усебеларускае спаборніцтва за найвышэйшы ўраджай кукурузы.

Праўленне калгаса «Чырвоны сад», партыйная арганізацыя і ўсе калгаснікі ўскладаюць вялікія надзеі на сваіх комсамольцаў. Іх у калгасе 93 чалавекі. Гэта — сіла! Усе яны працуюць на калгаснай вытворчасці і працуюць не абы як, а з'яўляюцца прыкладам для ўсёй моладзі. Многія, як і Анатоль Парусаў, Таня Лейпунова і Анатоль Беларускі, узначальваюць комсамольска-маладзёжныя звенні.

Комсамолка Кацярына Разухабава з калгаса «Перамога» Талачынскага раёна ўжо некалькі год вырошчвае са сваім звяном лён. Добры лён вырошчвае гэтая дзяўчына, і памногу цэнтнераў з гектара. Але ў мінулую восень ёй стала вядома, што такая-ж дзяўчына, як яна, з калгаса «Шлях Сталіна» Крупскага раёна комсамолка Аня Паташова вырасціла дзевяць цэнтнераў ільновалакна з гектара. Гэта ледзь не на тры цэнтнеры больш, чым выходзіла ў Кацярыны. І цэлую зіму Кацярына рыхтавала ўсё неабходнае, каб і яе звяно атрымала не меншы ўраджай. У гэтым калгасе вопытны, ініцыятыўны аграном таварыш Мялевіч. Пры яе дапамозе звяно дасканала вывучыла агратэхніку вырошчвання ільну і гэтай вясной мяркуе прымяніць новыя метады падкормкі, адпаведна асаблівасцям мясцовай глебы.



Кіма Маханёк.

Аня Паташова, цяпер дэпутат Вярхоўнага Совета БССР, таксама не збіраецца спыніцца на дасягнутым. Тым больш, што яе добры прыклад натхніў усю калгасную моладзь. Дзесяць маладзёжных звенняў з гэтага калгаса вышлі ўслед за Аняй у поле. Некаторыя з іх на кукурузныя ўчасткі, некаторыя — на ільняныя. Такім чынам, з'явілася вельмі карыснае і плённае спаборніцтва паміж гэтымі двума звеннямі з розных месц, паміж моладдзю гэтых двух калгасаў. Пажадаем ім найлепшых поспехаў!

Многае, вельмі многае чакаецца ад гэтай вясны. І многае, вядома, возьмецца калгаснікамі, нашай слаўнай моладдзю.

У час нашага падарожжа па раёнах Міншчыны і Віцебшчыны нам удалося пабываць на жывёлагадоўчай ферме калгаса «XVIII партз'езд» Талачынскага раёна. Мы

Вуліца калгаса «Чырвоны сад».



Мікола **АРОЧКА**

## НА СЯЎБЕ

Непрыкметна да сяла
Без маланкі яркай,
Без грымоты падплыла
Хмарка.

Пэўна, знала: тут якраз
Ніву засяваў я.
Калі ласка — ў добры час,
Госця веснавая!..

І з падхмарнай вышыні
Дождж сыпнуў краплісты,
Быццам сеяла з сяўні
Хмарка зернем чыстым.

Хлапчукі бягуць гурбой
Ды крычаць наперабой:

— Дожджык, дожджык, сыпані,
Я паеду на кані!

І ў мяне па тым каньку
З імі падабенства —
Ездзіла па ручайку
На бярозавым кійку
І маё маленства.

На сапраўднага каня
Сёння перасеў я, —
І не злічыш тых зярнят,
Што я перасеяў.

Гэй, машына, ход прыбаў!
Хмарка адплывае,
Бо кругом ідзе сяўба
Веснавая.



хацелі пабачыцца з загадчыцай фермы Зояй Івановай, аднак першым сустрэў нас загадчык кормакухні, рухавы, гаваркі дзядок, вельмі падобны на Шчукара.

— Вы хто будзеце? — добразычліва спытаў ён у нас. — Ветэрынары?..

— Нажаль, не, — прышлося адказаць яму. — Мы проста камандзіраваныя ад часопіса.

— Ага, камандзіраваныя, — весела сказаў дзед. — Добра, добра. А я — кухар. Вось. Кухар. Кармлю гарачым і кароў, і свіней, і коней. Усім хапае гарачага. Вунь мая фабрыка, дымок з яе ідзе. Пойдзем, пакажу!

— А што-ж вы варыце на сваёй кухні? — спыталі мы.

— Як што? Бульбу, буракі, турнэпс. Усё, што трэба.

— А хапае ў вас усяго гэтага?

— Хапа-ае, — нараспеў прамовіў дзед. — Да новага хопіць, яшчэ і застанецца. Вунь і сена яшчэ ёсць, і канюшына, і сіласу дзве ямы. Кукурузнага! Любата! Адна ўжо крыху надабрана, а другая яшчэ і нечапана.

Зоя падыйшла, моўчкі прывіталася з намі і з лагоднай усмешкай пачала слухаць гаворку дзеда. Яна, відаць, ужо ведала, што дзеда няварта перабіваць, бо пакуль ён не выкажацца, то нічым яго не спыніш. Мы агледзелі ферму і пераканаліся, што хоць і многа дзед гаварыў, але, не ў прыклад Шчукару, зусім не хлусіў. На ферме сапраўды хапала ўсялякіх кармоў: каровы і свінні выглядалі добра ўкормленымі і, вядома, яшчэ не ад пашы, а ад дзедавай кухні. Малака было многа, апаросы багатыя. Не дачакаўшыся, пакуль мы зойдзем на свінаферму, Зоя кіўнула свінаркам, і яны вынеслі адтуль па парасяці. Белыя, чыстыя і сытыя, як ліні, да захаплення прыгожыя, яны ляжалі на руках спакойна, нібы кацяняты. Зоя глядзела на гэтых парасятак, вочы іскрыліся пяшчотай, потым не вытрымала, схапіла адно і прытуліла да сваёй шчакі. З чатырнаццаці год яна пайшла працаваць на свінаферму. Догляд жывёлы стаў яе прафесіяй, яе шчаслівым і радасным абавязкам. У мінулым годзе яна вырасціла па васемнаццаць парасят ад свінаматкі. Затым ужо яе прызначылі загадчыкам фермы.

І вось чаго чакае Зоя са сваімі сяброўкамі ад цяперашняй вясны. Перш за ўсё, значнага павелічэння выхаду прадукцыі жывёлагадоўлі. Для гэтага трэба і больш кармоў. Кукурузы многа сеюць у калгасе, але, акрамя асноўнага плана, будзе яшчэ прыфермскі ўчастак. Тут ужо гаспадары—работнікі фермы. Потым — сенажаці. Хто раней думаў аб тым, каб павысіць ураджайнасць натуральных сенажацяў? Які год выпадаў, такое было і сена. Цяпер у многіх калгасах Міншчыны і Віцебшчыны праводзіцца баранаванне, падсеў і падкормка сенажацяў. Абвешчана рашучая барацьба такім абураючым з'явам, як псаванне сенажацяў трактарамі пры розных заходах і паваротах.

У калгасе «XVIII партз'езд» усё гэта праводзіцца па ініцыятыве комуністаў і комсамольцаў — работнікаў фермаў.

У калгасе «Ленінскія іскры» Аршанскага раёна толькі ў мінулым годзе моладзь пайшла на фермы. Раней не толькі моладзь, але і старэйшыя калгаснікі не хацелі туды ісці, бо не было там ніякага парадку. Вера Хуцкая і Зінаіда Ермалюгіна прышлі на свінаферму ў вельмі цяжкі перыяд. Была тут страшэнная запушчанасць, нехапала кармоў, свінні дохлі. Добрасумленна, з маладым задорам узяліся дзяўчаты за працу і вось нарэшце прычакалі цяпер першага вясенняга апаросу. Добры вышаў апарос, па 13—14 парасят ад свінаматкі, і ўсе парасяты дзябёлыя, жвавыя. За гэты год дзяўчаты мяркуюць ледзь не падвоіць сваю ферму і адкарміць не менш трыццаці свіней для здачы дзяржаве.



Юлія Карніенка

Так, для кожнага калгасніка, для кожнага совецкага чалавека гэтая вясна нясе многа шчасця і радасці, многа светлых перспектыў. За мінулы год, пасля вераснёўскага Пленума ЦК КПСС, дзесяткі калгасаў нашай рэспублікі сталі мільянерамі, вырасла вага іх працадня. Пройдзе вясна, пройдзе лета пяцьдзесят пятага года, і ў нас будуць сотні калгасаў-мільянераў, яшчэ больш узнімуцца добрабыт і культурны ўзровень калгаснікаў.

# ПАЧАТАК БІЯГРАФІІ

Уладзімір КЛІМЯНКОЎ

На апошнім перапынку член камітэта камсамола Ніна Болсун затрымала Таню ў калідоры і сказала:

— Заўтра а дзесятай гадзіне ў райком...

Таня даўно чакала гэтага паведамлення. І чаму так здараецца: вось і ведала і чакала, а ўсё-такі неяк неспадзявана былі сказаны гэтыя словы, аж сэрца адразу закалацілася.

Заўтра ў райком! Заўтра яна, Таня, стане членам камсамола, атрымае такі-ж самы камсамольскі білет, які насіла ля сэрца Зоя Касмадзем'янская.

«А што, як не прымуць? А што, калі скажуць: Таня Байдак яшчэ не мае права быць членам Ленінскага камсамола. Раптам запытаюць: «Што ты зрабіла такое, каб быць у адных радах з праслаўленымі героямі, наватарамі?»

Гэтая думка вельмі ўсхвалявала дзяўчыну. Яна яскрава ўявіла сабе, як сакратар райкома камсамола падымецца з-за стала і скажа: «Раскажы, Таня, сваю біяграфію». А якая там у яе біяграфія!.. І тады ёй скажуць: «Табе яшчэ рана ў камсамол».

Таня ішла дадому праз скверык. Па алеях хадзілі людзі — маладыя і старыя, мужчыны і жанчыны. «Вось у іх, напэўна, ёсць свае біяграфіі, ды яшчэ і якія! — зайздросціла Таня. — А ў мяне? У сем год пайшла ў школу. Цяпер у восьмым класе вучуся. Яшчэ калі была ў шостым класе, кіравала гуртком «герояў-камсамольцаў». Рабілі альбомы з фотаздымкаў, з паштовак і з марак. Абнеслі школьны сад і скверык агарожаю і насадзілі шмат кветак, упрыгожылі кветкамі магілкі герояў. Вось і ўся біяграфія. Але, можа, грамадскія нагрузкі і не адносяцца да біяграфіі? Тады зусім няма пра што гаварыць»...

З такімі думкамі Таня прышла дадому. Падвешваючы партфель на цвік, яна пачула ў суседнім пакоі гаворку. Адзін голас яна пазнала — гаварыла маці.

«Хто-ж гэта ў нас?»

Але вось дзверы расчыніліся...

— Дзядзька Панас!.. — ускрыкнула Таня. — Калі-ж ты прыехаў?

Гэта быў мамін брат, а танін дзядзька — Панас Максімавіч Камісараў.

— Тыдзень ужо, як тут. А ты і не ведала? — лагодна адказаў дзядзька і засмяяўся.

— Але я сур'ёзна, — сказала Таня.

— А несур'ёзна і пытацца няма чаго. Сама ведаеш, як толькі на Палессе — дык адразу да вас. Запыталася-б лепш, адкуль і ці надоўга...

— Адкуль, дзядзька Панас, наколькі?

— Цяпер пачакаеш, зараз мая чарга пытаць... Пакажыся-ж, якая ты вырасла?

Мамін брат, дзядзька Панас, высокі, шырокаплечы. Ідзе па вуліцы, дык усе людзі на яго глядзяць, як на нейкага волата. І заўсёды дзядзька Панас, як прыедзе ў госці, хвіліны не будзе маўчаць: смяецца, расказвае што-небудзь — і заўсёды цікава.

— Марына! — гукнуў дзядзька сястру, якая накрывала стол у другім пакоі. — А твая дачка расце! Глядзі, прыгажуня якая!

— Няхай прыгажуня памыецца ды будзем вячэраць, — усміхнулася Марына Максімаўна. — Толькі яе і чакаем.

Таня, вясёлая і крыху збянтэжаная, пайшла мыцца. Калі яна вярнулася ў пакой, усе ўжо сядзелі за сталом і маці разліла суп.

— Ну, а зараз, — сказала Таня, — можна спытаць, адкуль прыехаў?

Дзядзька Панас адкінуў назад каротка падстрыжаную галаву, усміхнуўся.

— І зноў нельга, суп астыне.

Але Таня ведала, што дзядзька і сам не вытрымае. І сапраўды, не спяшаючыся, ён пачаў апавядаць.

— Працаваў я ў Мінску. Гэта ты добра ведаеш. Цяпер-жа працую дырэктарам МТС на Алтаі. Адтуль і прыляцеў. Зразумела?

Таня ў знак згоды кіўнула галавой.

— Працавалі не блага, — працягваў ён. — Здалі сваю прадукцыю на «пяцёрку», як кажуць у вас у школе. А як-жа ў цябе, Танюша? Можа, двойкі з тройкамі ў дзённіку скачуць?

— Яна круглая выдатніца, Панас, ніводнай чацвёркі, — умяшалася маці.

— Малайчына!.. — сказаў дзядзька і зноў уважліва паглядзеў на Таню. — А як у цябе з комсамолам? Час уступаць, я думаю?

— А я падала ўжо... — сказала Таня.

— Ну, і што?

— Заўтра выклікаюць у райком.

— Што-ж, віншую, Танюша!

— Пачакайце віншаваць, дзядзька Панас. Можа, не прымуць.

— А мне здаецца, што павінны прыняць, калі заслужыла. Ці, можа, грашок які ёсць? Тады гавары начыстату.

— Няма грахоў, здаецца, — ціха прамовіла Таня. — Але вось з біяграфіяй...

— А што ў цябе з біяграфіяй?

— Ды нічога. Няма ў мяне ніякай біяграфіі. Запытаюцца ў райкоме, а мне і расказаць нечага.

— Вось табе і маеш! — перабіў дзядзька Панас. — Чуеш, сястра, у тваёй дачкі няма ніякай біяграфіі! Ці-ж так гэта, Тацяна? Давай праверым. Ты пачынай расказваць, а я і маці дабавім. Згодна?

— Мне і расказваць няма чаго.

— А ты не спяшайся. Пачынай з самага пачатку, па чарзе.

— Ну, нарадзілася сёмага лістапада ў 1940 годзе, — прамовіла Таня.

— Нядрэнны пачатак, — перабіў дзядзька Панас. — Трэба дадаць: у гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, у Совецкім Саюзе нарадзілася. Памятаеш, як у Маякоўскага: «Чытайце, зайздросьце, я — грамадзянін Совецкага Саюза!» Табе, Таня, і сапраўды ўвесь свет зайздросціць. Далей: бацькі твае хто?

— Бацька — аграном, маці — таксама... Ты-ж усё ведаеш, дзядзька Панас.

— Я ведаю. Але ты, мабыць, не ведаеш, што гэта значыць. Дзед твой, мой бацька, быў хлебаробам, ды і, наогул, род наш увесь — хлеборобы. І ты, мабыць, таксама будзеш аграномам — зноў надзвычай каштоўны факт. Дзе твае бацькі цяпер?

— Бацька загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны. А маці — вось яна сядзіць, — усміхнулася Таня, — агрон ом у нашым калгасе «Комунар».

— А яшчэ кажаш — біяграфіі няма. Бацька загінуў героем за сваю Радзіму. Маці з простай калгасніцы стала аграномам. Гэта, па-твойму, не мае дачынення да тваёй біяграфіі?.. Ну, далей расказвай...

— У 1946 годзе пайшла ў школу. Потым мяне ў піонеры прынялі.

— У піонеры прынялі!.. Гэта ты прыняла першую ў жыцці прысягу. Навек паклялася змагацца за справу нашай, Комуністычнай партыі.

— Цяпер я староста класа. І клас у нас дружны, дзядзька Панас. Непаспяваючых няма, а сама я вучуся на пяцёркі...

— І гэта факт біяграфіі. Самы важны факт, трэба сказаць. Вось я ведаю, дзеці часам шкадуюць, што позна нарадзіліся, зайздросцяць нам, старым: вось гэта пажылі людзі! І ваявалі, і будавалі... І ты зайздросціш, прызнавайся?

— Зайздрошчу, а як-жа, — згадзілася Таня.

— Гэта нядрэнна. Ёсць чаму пазайздросціць. Але і я табе, Танюша, зайздрошчу. Залаты час прыходзіць! Мы аб ім марылі, змагаліся за яго, галадалі, мерзлі. А ты насустрач яму ідзеш, маладая, поўная сіл... Комунізм будаваць трэба. Ты бедавала — расказваць няма чаго... Біяграфія... З такой, як твая, біяграфіяй куды хочаш не сорамна пайсці. Табе ўсе дарогі адкрыты, — сказаў дзядзька Панас і ласкава паглядзеў на Таню.

**Чачэрскі раён**
**Гомельскай вобласці.**

# СЫНАВЫ ПАДАРУНКІ

**Летась Мікола Болдузеў, малады калгаснік з сельскагаспадарчай арцелі «Чырвоны ўдарнік» Добрушскага раёна добраахвотна паехаў на асваенне цаліны. Там ён за год авалодаў двума прафесіямі — трактарыста і камбайнера. Шмат папрацаваў Мікола: араў, сеяў, убіраў багаты ўраджай, вырашчаны маладымі энтузіястамі на палях соўгаса «Чэкат» Паўладарскай вобласці.**

**Зімою Мікола прыязджаў у госці да сваёй маці Уліты Болдузевай. Хлопец пасталеў, падрос, яго нават не пазнавалі земляні. Ён быў у новым драпавым паліто, у футравай шапцы, валёнках. Пагаварыць з госцем з Казахстана прыйшлі сваякі і знаёмыя. Яны былі прыемна здзіўлены, калі Мікола пачаў раздаваць падарункі. Сваёй маці сын прывёз шарсцяную хустку і адрэз сукна на касцюм. Брату Сямёну юнак падараваў новае паліто, касцюм і шапку. Адрэз дарагой тканіны прывёз Мікола сястры Надзі.**

**Яшчэ больш здзівіліся калгаснікі, калі назаўтра к дому Уліты Болдузевай пад'ехала аўтамашына, нагружаная мяхамі з пшаніцай. Сто пудоў адборнага зерня прывёз у дом малы сын. Гэтую пшаніцу Мікола зарабіў за адно толькі лета і па квіту атрымаў на дзяржаўным складзе.**

**Дарагога госця з Казахстанскіх стэпаў цёпла праводзіла на станцыю калгасная моладзь. У той дзень шмат хто з комсамольцаў цвёрда наважыў паследаваць прыкладу Міколы Болдузева — абавязкова паехаць на цаліну.**

**А. КУРЛОВІЧ, І. СІМАНОЎСКІ.**

в. Агародня
Добрушскага раёна
Гомельскай вобласці.

# З ДУМКАМІ АБ МІРЫ

РЭПАРТАЖ НАШЫХ СПЕЦЫЯЛЬНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ
В. ПАНАМАРОВА І А. ДЗІТЛАВА

**Жыхары Брэста першымі з совецкіх людзей адчулі на сабе жахі, страшэнны цяжар фашысцкага нашэсця. Сярод брэсчан нямала жывых сведкаў легендарнага подзвігу абаронцаў Брэсцкай крэпасці.**

**...Гэта былі дні збору подпісаў пад Зваротам Сусветнага Совета Міру. У жыхароў Брэста, як і ва ўсіх совецкіх людзей, — адна думка: мір, мір, мір!**

**«З якімі імкненнямі і пачуццямі ставілі Вы свае подпісы пад Зваротам!»**

**Гэтае пытанне мы задалі некаторым жыхарам Брэста, людзям розных прафесій і ўзростаў.**

На рыштаваннях 49-кватэрнага дома на вуліцы Леніна мы сустрэліся з брыгадзірам комплекснай брыгады Уладзімірам Васільевічам Кліменкам.

— Я прайшоў, — гаворыць Уладзімір Васільевіч, — вялікую салдацкую дарогу: Краснадар — Харкаў — Бухарэст — Белград — Будапешт — Вена. Бачыў жахлівыя сляды вайны. Вось чаму я вырашыў стаць будаўніком. Працаваў у Маскве, ставіў доменную печ у Чалябінску, а цяпер вось будую жылы дом у Брэсце. У яго хутка ўселяцца жыхары, якія знойдуць у доме ўсю зручнасць сучаснага жылля. Я паставіў свой подпіс пад Зваротам, думаючы пра тое, каб усё, што я пабудаваў за мірныя гады, абараніць ад разбурэння, каб спакойна рабіць тую справу, якая мне па душы.



У горадзе ёсць педагагічны інстытут, чыгуначны тэхнікум, многа школ. У другой сярэдняй школе ў часе перапынку мы звярнуліся да вучаніцы дзевятага класа Людмілы Васюценка. Подпіс Людмілы пад Зваротам — яе першы ўдзел у вялікай грамадскай справе: 14 красавіка ёй споўнілася 16 год.

— Я яшчэ не ведаю, кім буду, — шчыра прызналася дзяўчынка. — Можа, медыкам, педагогам, а можа, як тата, — бухгалтарам. Уперадзе яшчэ больш года вучобы ў школе, ёсць яшчэ час падумаць. Я слаба памятаю ваенныя гады — была тады малая. Але цяпер я ўжо разумею жыццё, і хачу зрабіць усё для таго, каб не было вайны, якая перашкодзіла-б мэёй будучыні, перашкодзіла-б зрабіць нашы мары яваю.



У адным з лепшых будынкаў горада размясцілася абласная бальніца. З галоўным урачом гэтай лячэбнай установы Васілём Рыгоравічам Цішчанка мы гутарылі ў той час, калі ён рыхтаваўся да чарговай аперацыі.



— У сорак першым годзе, — успамінае Васіль Рыгоравіч, — на апошнім курсе Мінскага медыцынскага інстытута я захапіўся праблемай падоўжання жыцця чалавека. Але замест ціхай лабараторыі я трапіў у палявы шпіталь. Тысячы людзей я выратаваў ад калецтва.

Пасля сканчэння вайны вось ужо дзесяць год я зноў займаюся хірургіяй, але зусім іншай, далёкай ад ваеннага траўматызма, — хірургіяй, якая вылечвае чалавека ад хвароб. Асабліва цікавіць мяне праблема лёгачных аперацый — выдаленне пухлін, кісты, абсцэсаў.

У часе вайны я сам быў двойчы паранены. Цяпер у мяне сям'я — жонка і двое дзяцей, — і гэта таксама патрабуе ад мяне рабіць усё, што ў маіх сілах, каб захаваць мір.

На швейнай фабрыцы мы пазнаёміліся з маладой работніцай комсамолкай Соф'яй Бондаравай.

— Мой бацька і брат Грыгорый, — са смуткам пачала Соф'я, — загінулі на фронце, маці памёрла ў гады вайны... Вось якое гора прынесла вайна ў нашу сям'ю. Гэтага не забудзеш ніколі. Гады мірнай працы прынеслі заспакаенне, а творчая праца — радасць поспеху.

Соф'я Бондарава выхоўвалася ў дзіцячым доме, пасля вучылася ў Брэсцкім рамесным вучылішчы № 26, а цяпер працуе матарысткай.

— Да майскіх святаў і да дзесятай гадавіны перамогі, — сказала далей Соф'я, — мы шыем прыгожыя дзіцячыя гарнітуры. Сустрэнеш на вуліцы хлопчыка, апранутага ў наш гарнітур, і сэрца заб'ецца ад радасці. Хочацца працаваць яшчэ лепш, бо толькі працай я магу ўдзельнічаць у святой справе барацьбы за мір.





«Брэсцкая крэпасць» — лепшы спектакль, пастаўлены тэатрам імя Ленінскага камсамола, які стала працуе ў Брэсце. Нядаўна некальнім творчым работнікам гэтага тэатра былі прысвоены ганаровыя званні. Сярод іх — Таісія Фёдараўна Канавалава, заслужаная артыстка БССР.

— Працуючы на сцэне, я стараюся данесці да гледача думкі і пачуцці герояў класічнага рэпертуару і герояў п'ес пра нашы дні, — гаворыць Таісія Фёдараўна. — Я глыбока пераконана, што мірнае жыццё, напоўненае герaічнымі справамі савецкіх людзей, знойдзе самае шырокае адлюстраванне ў нашай драматургіі. З думкай аб гэтым я і паставіла свой подпіс пад Зваротам Сусветнага Савета Міру.

→



У другой школе мы размаўлялі з заслужанай настаўніцай БССР Екацярынай Міхайлаўнай Весяліцкай. Адарваўшыся на момант ад праверкі вучнёўскіх сшыткаў, яна сказала:

— Куды ні зірнеш, пра што ні падумаеш, з кім ні пагаворыш, — усё пераконвае ў тым, што народы хочуць і павінны жыць у міры. Гэтае сваё пераконанне я перадаю вучням. Колькі іх я выхавала ў такім духу? Для гэтага трэба 180 — лік вучняў, якіх я вучу кожны год, памножыць на 42 — на гады маёй педагагічнай дзейнасці.



У абліччы Брэста ёсць адна рыса, якую нельга не заўважыць. Адразу кідаюцца ў вочы чысціня вуліц, падстрыжаныя дрэўцы, дагледжаныя двары. І тут сціплая работа дворніка міжволі выклікае да сябе цікавасць. З адным прадстаўніком гэтай непрыкметнай спецыяльнасці — Якавам Гаўрылавічам Семенюком — мы і размаўляліся.

— Я ў Брэсце жыву даўно. Многа чаго тут пабачыў. Але ніколі яшчэ ў людзей не было столькі радасных падзей, як у апошнія дзесяць год. Усё жыццё наша ідзе зараз пад знакам барацьбы за мір.

←



У чыгуначным дэпо мы сустрэліся з маладым машыністам Пятром Фёдаравічам Салівонікам, нядаўна ўзнагароджаным значком «Пачэснаму чыгуначніку».

— У вайну я партызаніў. У тым, што фашысцкія эшалоны часцяком ляцелі пад адхон, ёсць часцінка і маёй работы. Тады я быў «парушальнікам» рэгулярнага руху на чыгунцы. Цяпер стаў машыністам, ваджу цяжкавагавыя саставы. Калі і парушаю расклад, дык толькі да лепшага — хутчэй, чым прадугледжана графікам, прыводжу саставы. Ды інакш і нельга — мы-ж возім грузы для мірных будоўляў.

←

У насценнай газеце рэдакцыі абласной газеты «Зара» мы прачыталі наступнае:

«Свету — мір! Колькі цеплыні, саграваючай сэрцы людзей, змяшчаецца ў гэтым трапным баявым сказе. Ён вымаўляецца на мовах народаў усяго зямнога шара і з надзвычайнай глыбінёй адлюстроўвае думкі і спадзяванні людзей добрай волі.

Я паставіла свой подпіс пад Зваротам Сусветнага Савета Міру з надзеяй на тое, што наша юнацтва і надалей будзе шчаслівa цвісці.

Адвядзем смертаносную атамную зброю ад нашага юнацтва!»

Гэты допіс падпісала Тамара Волкава, дзяжурная на тэлетайпе. Некалькі год назад яна пачала сваю працу ў рэдакцыі рассыльнай. Цяпер вучыцца ў дзевятым класе вячэрняй школы. Яе мара — паступіць ва універсітэт. Тамара першай у Брэсце даведваецца пра навіны: пра іх ёй паведамляе стужка тэлетайпа. Калі мы зайшлі на тэлетайп, дзяўчына чытала паведамленне з Парыжа аб шматтысячным мітынгу прыхільнікаў міру, які адбыўся ў сталіцы Францыі.

— Лагер міру з кожным днём становіцца мацнейшым, — з задавальненнем сказала Тамара.

→

І гэта так... Гэта асабліва выразна відаць у горадзе, дзе ў 1941 годзе пачалася вайна, дзе геpaічныя абаронцы Брэсцкай крэпасці насмерць стаялі, каб не прапусціць ворага на родную савецкую зямлю; гэта відаць у творчай працы людзей, у іх думках і марах, у іх цвёрдай веры ў тое, што мір пераможа вайну. Бо мы працуем, жывем і змагаемся ў імя міру і за мір.



У гарадской пажарнай ахове мы гутарылі з начальнікам каравула Іванам Рыгоравічам Паўлючуком.

— Усе апошнія гады я працую пажарнікам. Мне добра вядома, што ўсякі пажар можна патушыць, але лепш за ўсё яго папярэдзіць. Дзякуючы прафілактычнай рабоце на аб'ектах, якія знаходзяцца пад маім наглядам, пажараў ніколі не было. Каб полымя вайны не разгарэлася, трэба прыняць меры да заспакаення падпальшчыкаў.

→



# Сяброўкі



**Раман САБАЛЕНКА**

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага.

Стары Дарафей раз-по-разу шморгаў лейцамі і кідаў у завіруху:

— Но, но, буланы, каб ты здароў быў!

А конік сабе памалу цюпаў і цюпаў па добра ўезджанай дарозе, хоць сям-там і перамеценай за ноч. З неба не падала снегу ні каліва, але затое сіберны вецер гнаў і гнаў яго, як лёгкі пыл, па белай роўнядзі поля. Ноч была месячная, і снег, які курыўся над полем, здаваўся раскудзеленым прадзівам. Валі сядзець было цёпла. Яна ўхуталася ў матчын новы кажух, паставіла каўнер і, каб ён не ападаў, маці абвязала шыю старым бацькавым шалікам. Валя, калі ёй хацелася зірнуць на бок, паварочвалася адразу ўсім тулавам. Яна азіралася па баках рэдка і ўсю дарогу бачыла перад сабою бацькаву спіну. Дзяўчына да таго прыглядзелася да гэтай спіны, што яна ўжо здавалася ёй сапраўды нейкай сцяной. Чамусьці прышло ў галаву: «За бацькавай спіной, як за мураванай сцяной». Яна сабе ўсміхнулася. Спіна бацькава была шырокая, і пры месячным святле можна было разглядзець карычневы, падобны на абветраную цэглу, колер кажуха. Гэта рабіла яшчэ больш рэальным прышоўшае ў галаву параўнанне. Валі хацелася гаварыць з бацькам, але, як яна ні крычала супраць ветру, словы яе, здавалася, адскоквалі ад бацькавай спіны і ляцелі назад услед за мяцеліцай.

Дзесяць дзён прабыла Валя дома. Едучы з Мінска дамоў у госці, яна ўяўляла, як за гэтыя поўгода, якіх яна не была ў роднай хаце, там усё перамянілася. Але як толькі пераступіла парог, яна адразу ўдыхнула той знаёмы з дзяцінства пах, якім, здавалася, прапахлі ўсе куткі хаты. Яна падумала сабе: каб ёй, здаецца, завязалі вочы, неспадзявана прывезлі і ўпусцілі ў хату, яна-б толькі па гэтаму знаёмаму з дзяцінства паху пазнала, што трапіла ў родны дом. Цяпер вось, адязджаючы далей ад родных аселіц, яна везла з сабой не толькі чамадан, наладаваны маці, але і цеплыню свайго кутка. Валі на гэты раз неяк балюча было пакідаць дамоўку. Боль гэты павялічваўся яшчэ і таму, што яна ўсведамляла і нават унутрана асуджала сваю няшчырасць перад бацькамі.

Праз усе гады, якія Валя вучылася ў старэйшых класах школы, яна была завадатаркай, першай аматаркай драматычнага гуртка. Марыя Аляксандраўна — выкладчыца беларускай літаратуры — нахваліцца не магла:

— З Валі абавязкова выйдзе артыстка. Ды яшчэ якая! — патэтычна ўсклікала яна перад настаўнікамі, перад бацькамі. І ў калгасе, калі заходзіла гаворка пра Валю і хто-небудзь не мог здагадацца пра якую, бо, праўду сказаць, на гэта імя ў вёсцы быў добры ўраджай, то тая жанчына, якая вяла гаворку, дадавала: «Вунь тая-ж, дарафеева артыстка». І ўжо ўсе ведалі, якая Валя. Дарафею, праўда, не вельмі-то хацелася, каб дачка ішла ў артысткі.

— Увесь свой век будзеш выскаляцца перад людзьмі, а што з таго! Вунь, лепш на агранома ідзі, — раіў стары.

А вось Марыя Аляксандраўна, дык тая вельмі ўжо настойвала, каб Валя ішла ў артысткі. Яна і ўгаварыла бацьку і самую Валю паслаць дакументы ў тэатральны інстытут.

На экзаменах Валі загадалі выканаць эцюд, прадэкламаваць верш. Яна, здавалася, уклала ўсю душу ў той эцюд, у дэкламацыю. Але людзі, што сядзелі ў прыёмнай камісіі, ці мо' таму, што наглядзеліся за колькі дзён гэтых эцюдаў, наслухаліся дэкламацый, як здавалася Валі, былі вельмі абыякавымі. Зірнула яна на іх, і ў яе ў сярэдзіне нібы што абарвалася. Асеклася на поўслове і змоўкла, як анямелая. Вось табе і артыстка!..

Цяпер Валя сядзіць у задку саней, глядзіць на бацькаву спіну і баіцца, каб яна не зрушылася з месца і каб бацька не зірнуў у вочы. Яна не вытрымала-б, заплакала-б і расказала-б, што ашукала. А бацька-ж тады, калі яна ехала паступаць, казаў ёй:

— Калі там якія непярэлікі, вяртайся дахаты. Нам, старым, лагадней будзе.

Але Валя і не думала вяртацца дадому. Як-жа яна магла, не пачырванеўшы, зірнуць у вочы Марыі Аляксандраўне! Зноў-жа, тая мянушка «артыстка», якая дагэтуль гучала з нейкім адценнем любасці, цяпер для яе была-б здзекам. Валя спадзявалася, што яна дзе-небудзь стане на службу, трохі асвойтаецца з гарадскім жыццём, а потым, можа, як кажуць у вёсцы, і ў людзі выйдзе. Гэтая няпэўная надзея і павяла дзяўчыну на пошукі службы. Дзён тры хадзіла яна па гораду ад установы да ўстановы, пытала ўсё, ці няма дзе якога месца. Калі яна праглядала газеты, кідаліся ў вочы аб'явы аб наборы скончыўшых сярэднія школы ў тэхнічныя вучылішчы, аднак гэта Валю не спакушала. Яна колькі разоў падыходзіла да аб'яў бюро рэкламы, уважліва прабягала вачыма надрукаваныя на машынцы радкі, але там нічога такога не знаходзіла. Дзяўчына ўжо ўпадала ў роспач: хацела кінуць усё і паехаць дахаты. Неяк аднаго разу, ходзячы па глухаватых вуліцах горада, Валя заўважыла шыльду «Кантора «Хімфарбаколер». Што гэта за кантора, дзяўчына не ведала, але, на ўсякі выпадак, падумала: «Дай зайду» і адчыніла дзверы. Яна апынулася ў доўгім цемнаватым калідоры, паабапал якога былі ўсё дзверы і дзверы. Шукала шыльдачкі «Аддзел кадраў», убачыла буйнымі белымі літарамі на чорным шкельцы напісанае: «Прыёмная». Туды, у тую бакавушку, яна і ўвайшла. За звычайным столікам, сядзела хударлявая, смуглая з твару, немаладая ўжо жанчына. Яна курыла папяросу і ў дыме, які ахутаў яе, здавалася нейкай незвычайнай.

— Вы што хацелі? — звярнулася яна да Валі.

— Я хацела даведацца, можа ў вас якая работа тут ёсць.

Жанчына акінула Валю з ног да галавы дапытлівым позіркам, як-бы ацэньваючы, чаго яна варта.

— А вы маеце якую спецыяльнасць?

— Не! Паступала ў інстытут ды па конкурсу не прайшла.

— У які інстытут, калі не сакрэт?

— У тэатральны. Які-ж гэта сакрэт! — адказала Валя і чамусьці засаромелася. А жанчына яшчэ больш пільна ўглядалася ў яе.

— Вы прысядзьце вось тут, я зараз вам скажу, — і яна знікла за абабітымі дэрмацінам дзвярыма. Праз які момант зноў адчыніліся дзверы і ўжо мужчынскі, крыху хрыплаваты, пракураны голас паклікаў:

— Зайдзіце, калі ласка!

Валя апынулася ў кабінеце начальніка. Яна ўбачыла грувасісты, нібы высечаны з шэрага каменю, стол, супроць якога пры сцяне, закрыўшы сабой дзверы, што выходзілі ў калідор, стаяла шафа з люстранымі дзверцамі.

Калі той чалавек, што паклікаў Валю, сеў у крэсла, яго галава была ніжэй за спінку, таму ён здаваўся нейкім маленькім, нават мізэрным. Калі-б Валя разбіралася ў стылях, яна заўважыла-б, што ўсё, што знаходзілася ў кабінеце, не адпавядала адно аднаму, і ўжо ва ўсякім разе гэтае люстэрка ў дзвярах шафы было нейкім недарэчным. Але яна не звяртала ніякай увагі на ўсё гэта. Яе думкі былі скіраваны на тое, ці возьмуць на работу.

— Адпусціце мяне, Кірыла Ціханавіч. Вось мне і замена знайшлася.

Той, каго назвалі Кірылам Ціханавічам, неяк крутнуўся ў крэсле і навіс усім сваім целам на правы падлакотнік.

— Што-ж вам, Зоя Віктараўна, у нас не спадабалася?

— Мне ўсё падабаецца, але, ведаеце, я за сваё жыццё прывыкла да шуму, гоману, а тут якая-ж гэта служба, калі на ёй спаць хочацца!

Валя здзівілася, чаму Зоі Віктараўне не падабаецца спакой? Дзівачка нейкая. А ёй, Валі, хочацца вось гэтага спакою, асабліва пасля бегатні па гораду.

— Ну што-ж, сілай міл не будзеш, ідзіце туды, адкуль прышлі. Я хацеў вам лепш зрабіць...

— Дзякую. Я на вас не крыўдую.

Валя заўважыла, што Кірыла Ціханавіч з правага свайго падлакотніка ўглядаецца ў люстра. І калі яна, нібы неўзаметку азірнулася, то ўбачыла, што ў люстры ён разглядае яе, Валю. Яна адступіла крок да дзвярэй. Тады Кірыла Ціханавіч неяк з-пад ілба акінуў яе сваімі выцвілымі вочкамі. Відаць, што ён любаваўся яе вясковай прастатой, яму, мабыць, падабаўся валін крыху кірпаты носік, чарнявыя косы, што недарэчна выбіліся з-пад хусцінкі.

— Калі маеце жаданне, напішыце заяву. Зоя Віктараўна, дайце дзяўчыне лісток па ўліку кадраў, няхай запоўніць.

— А што я рабіць буду? — нясмела запыталася Валя.

— У маёй прыёмнай сакратаркай будзеце. Вам Зоя Віктараўна раскажа і пакажа, што і як.

Калі Валя, развітаўшыся з Кірылам Ціханавічам, выходзіла з кабінета, ён доўгім, дапытлівым позіркам праводзіў яе.

Валя сядзіць у задку саней і ўспамінае, цяпер ужо асэнсоўваючы, той позірк. Калючы вецер пачынае прабіраць нават новы матчын кажух. А можа гэта ёй зябка робіцца ад таго позірку, а можа сорам перад бацькамі праймае навылет? А вунь ужо і цьмяныя агеньчыкі відаць. Мабыць, станцыя? І ад таго, што свецяцца тыя агеньчыкі, Валі становіцца неяк цяплей.

І вось паварочваецца і павольна, як-бы спаўзае з саней, бацькава спіна. Валя адразу адчувае, што ёй робіцца халадней. Стары ўжо чапляе лейцы за станцыйныя штакеціны, а яна ўсё ніяк не вылезе з саломы, не вылузнецца з матчынага кажуха. Бацька глядзеў, глядзеў на яе і ўзяўся сам развязваць ёй на каўняры свой стары шалік.

— От ушушкалася. А як ногі, не замёрзлі?— спытаў ён.

— Ды не, — ступаючы на снег, адказала Валя. — Вы, тата, здымайце тут мой пасаг, а я хуценька збегаю па білет.

Непадалёк раўнуў паравоз, і вось ужо, нібы стаміўшыся ад хуткага бегу, ён спыніўся і адсопваецца белай парай. Валя толькі паспела ўвайсці ў тамбур, узяць з бацькавых рук чамадан, як паравоз зноў раўнуў, і цягнік павольна рушыў. Яна нават не развіталася як мае быць з бацькам. Ёй зрабілася няёмка.

Перад світаннем у вагоне ўсе спалі. Валя несла перад сабой наладаваны маткай чамадан. Ненарокам яна зачапілася за чыесьці доўгія, выстаўленыя з полкі ногі і ледзь не ўпала. Чалавек павярнуўся на бок, нешта спрасоння мармытнуў і падабраў пад сябе ногі. Валя заўважыла купэ, у якім сядзела адна, абапёршыся локцямі на столік, жанчына. Яна і збочыла ў тое купэ. Жанчына хуценька ўстала і прапанавала свае паслугі.

— Давайце я вам падмагу, — і яна паднялала полку, — стаўце сюды свой багаж, каб ён не замінаў.

Валі неяк радасна стала, што знайшоўся чалавек, які паспачуваў ёй. Яна, расперазаўшы вузенькую папружку і расшпіліўшы шырокае з малінавага бобрыку паліто, села пры століку насупраць незнаёмай. Пры скупым вагонным святле Валя разгледзела, што яе спадарожніца, перад якой ляжаў на століку разгорнуты сшытак, зусім яшчэ маладая, можа адных год з ёю. Яна была апранута ў бастонавае паліто з пушыстым пясцовым каўняром, а на галаве завязана цёплая хусціна. Можа з-за гэтай хусціны Валя і падумала, што яе суседка стараватая ўжо.

— Вы далёка едзеце? — спытала Валя.

— Да Мінска.

— Вось і добра, што ў адну дарогу.

У голасе дзяўчыны Валя адчула нейкую шчырасць. Здараецца-ж так: сустрэнеш упершыню чалавека і адразу пранікнешся даверам да яго, а калі яшчэ перакінешся адным, другім словам, дык адчуеш нейкую блізкасць і забудзешся, што ты толькі што з ім пазнаёміўся, табе здасца, што ты з ім знаёмы даўно, што ён — твой сябра. Гэта адчула і Валя. Яна працягнула руку і сказала:

— Давайце пазнаёмімся, — і назвала сваё імя.

— Мяне завуць Алена, — адказала дзяўчына.

— Вы мінчанка?

— Не! Я еду ў Мінск на нараду.

— Відаць, у Міністэрства асветы? — дапыталася Валя.

Алене не хацелася гаварыць пра сябе, і яна, як-бы адбіваючыся ад валіных запытанняў, сама звярнулася да яе.

— А вы, мусіць, мінчанка?

— Карэнная цяпер.

— І даўно-ж вы ўкараніліся?

— З восені.

— Вучыцеся, мабыць, дзе?

Валі няёмка было прызнавацца, што яна не паступіла ў інстытут і што цяпер працуе сакратаркай у прыёмнай.

Валя пільна ўглядалася ў сваю спадарожніцу, і чым больш яна глядзела на яе, тым больш тая падабалася ёй. Нейкая, можа нават крыху ненатуральная стрыманасць, шчырая прастата, дзявочая прыгажосць, на якую хочацца глядзець, не адводзячы вачэй — усё гэта прываблівала і зачароўвала. Валя нават пазайздросціла аленіным залацістым косам, якія, выбіўшыся з-пад цёплай шэрай хусткі, прыгожа ляжалі на плячах. Яна міжволі пакратала свае завіточкі і падумала сабе: «А я, дурная, абрэзала свае, у мяне-ж якраз такія даўгія былі, можа толькі крыху цямнейшыя».

У гаворцы час ішоў неўзаметку. Ужо развіднела. У прахуканую шыбу акна Валя ўбачыла вялізны гмах Дома ўрада, дзве стройныя вежы прывакзальных высотных будынкаў. Цягнік падыходзіў да станцыі «Мінск». Валя зірнула на Алену, і ёй шкада стала, што вось яны зараз развітаюцца і больш ніколі, ніколі не сустрэнуцца. Таму яна прапанавала:

— Навошта вам тае гасцініцы шукаць, цягацца з чамаданам па гораду. Я жыву недалёчка ад вакзала — цераз мост і дома. Хадземце лепш да мяне.

— Дзякую. Але-ж я вам, мабыць, замінаць буду.

— Што вы? Я-ж адна. Пастаўце чамадан, а тады пойдзеце, куды вам трэба.

Валінай кватэрай была адгароджаная фанерай бакавушка, у якой стаяў з паіржавелымі ножкамі ложак, у кутку невялічкі столік, на якім уладарыла над усім авальнае люстэрка, якому, відаць, аддавалася шмат увагі. Алена, гледзячы на ўсё гэта, думала: «Дрэнна-ж ты, галубка мая, укаранілася, тут няма за што і карэнню зачапіцца».

— Распранайцеся. Можа, крыху паснедаем?

— Дзякую. Я хіба толькі ўмыюся.

Алена скінула паліто, і Валя ўбачыла на шарсцяной вязанай жакетцы поруч з камсамольскім значком ордэн «Знак Пашаны». «Якая маладая, а ўжо ордэн мае», — пазайздросціла Валя. Яна правяла Алену да ўмывальніка. Тая спаласнулася вадой і неяк аж пасвятлела.

— Мне трэба хуценька бегчы. Там а дванаццатай гадзіне павінна пачацца.

— Вы-ж увечары прыходзьце абавязкова,— сказала наўздагон дзяўчыне Валя.

— Добра, — кінула ў адказ тая. — Абавязкова прыду.

Алена вярнулася адвячоркам. Яна была нечым вельмі ўзрушаная, усхваляваная. Твар яе, здавалася, свяціўся нейкім невідочным святлом. Алена яшчэ з парога зычліва ўсміхнулася сваёй новай сяброўцы і прапанавала:

— Валя, у мяне ёсць два білеты ў тэатр. Сходзім сёння?..

Аленіну прапанову Валя прыняла з радасцю, і яны хуценька пачалі збірацца.

У тэатр дзяўчаты прышлі хвілін за дваццаць да пачатку спектакля, распрануліся ў гардэробнай, пастаялі перад люстэркам, папраўлілі прычоскі, агледзеліся, каб усё было на іх у парадку, і пайшлі ў залу. Калі яны праходзілі ў першыя рады і шукалі сваіх месцаў, Валя заўважыла, што на іх чамусьці скіраваны цікаўныя позіркі. Яна нават засаромелася. Валя запытала:

— Чаго яны гэтак на нас глядзяць?

— А хто іх ведае, — адказала Алена, хоць яна і ведала, што ў зале былі амаль усе ўдзельнікі нарады, на якой яна сёння выступала.



Святло тухла павольна, і Валі здалося, што яна знаходзіцца не ў тэатры, а ў полі на змярканні. Расхінулася цяжкая аксамітавая заслона. Спачатку ціха-ціха, аднекуль з-за сцэны наплывала песня, паступова нарастаючы, як прыбой. Па сцэне захадзілі людзі, і Валя замёрла. Яна лавіла кожнае слова артыстаў і асабліва вунь той шустрай дзяўчыны, калгаснага брыгадзіра. Яна гаварыла такія словы, што яны западалі ў самую глыбіню сэрца. Валя нават на момант забыла пра сваю сяброўку і, калі выпадкова зірнула на Алену, заўважыла, што тая таксама вельмі перажывае. У яе аж слёзы выступілі на вачах.

— Што з вамі, Алена?

— Нічога, так сабе. Не магу спакойна глядзець. Здаецца, што я гляджуся ў люстэрка на самую сябе.

— Чаму на самую сябе?

— Мне Валечка, як і Марынцы на сцэне, давялося змагацца за свой лянок.

У першым антракце Валя даведалася, ад Алены, што яна прыехала на нараду маладых ільнаводаў. Алена расказала Валі пра тое, як яна, скончыўшы дзесяцігодку, спачатку пайшла працаваць у калгасную кантору ўчотчыцай, а пасля плюнула на лічыльнікі ды на паперы і падахвоцілася стаць звеннявой; як ёй спачатку цяжка было. А вось у леташнім годзе за высокі ўраджай ільну яе ўзнагародзілі ордэнам «Знак Пашаны». Алена расказала пра сённяшняе выступленне на нарадзе маладых ільнаводаў.

— Чаму-ж вы мне адразу не сказалі пра сябе?

— Прабач, Валечка, — Алена неўзаметку для сябе перайшла на «ты». — У полі, сярод сваіх дзяўчат, сёння на нарадзе, вось тут, на спектаклі, я з гонарам магу расказваць пра сябе. А там, у вагоне, прабач, Валечка, я не магла, я цябе не ведала, я думала, што ты не зразумееш і ў душы будзеш кпіць з мяне.

— Дзівачка, — адказала Валя. — Я сама сябе яшчэ шукаю. Ты думаеш, мне тая служба, той кірылаў катух вельмі ўжо да душы?

Валя з Аленай ішлі са спектакля, як самыя шчырыя сяброўкі. Здавалася, што яны не сёння толькі пазнаёміліся, а ўсё сваё нядоўгае жыццё ідуць вось гэтак, узяўшыся пад рукі.

— А мне-ж удзяўблі ў галаву, што ў вёсцы ў людзі не выйдзеш. А ты-ж вунь выйшла, ды яшчэ ў якія! — сказала Валя.

— Як бачыш, выйшла. Выйдзеш і ты, як захочаш, калі не пабаішся мазаля.

Амаль усю ноч яны прагаварылі, а на світанні селі пісаць заяву на імя Кірылы Ціханавіча. Валі чамусьці прыходзіла ў галаву тое, як ён разглядаў яе праз люстэрка ў дзверцах шафы, і словы, сказаныя Кірылам Ціханавічам: «Я на вас, Валянціна Дарафееўна, вельмі спадзяюся», якія тады Валя не зусім зразумела, набылі пэўны сэнс. Зноў-жа такі тое, што сказаў ён Зоі Віктараўне: «Сілай міл не будзеш», чамусьці ўсплыло на памяць. «Можа ён і мне гэтак скажа?» — падумала Валя. І таму ёй хацелася напісаць у заяве такія словы, каб яны за жывое ўзялі Кірылу Ціханавіча, але Алена яе стрымлівала. Заява выйшла афіцыйнай і дакладнай: «Прашу звольніць мяне з работы ў сувязі з тым, што я еду працаваць у калгас».

Дзяўчаты развіталіся, калі праспект Імя Сталіна, прывакзальная плошча і ўсе вуліцы Мінска гарэлі зыркімі агнямі. Церушыў ціхі сняжок, які ў праменнях вулічнага святла здаваўся нейкім казачным марывам. А Валі ўяўлялася шырокае роднае поле, засланае блакітным дыванам квітнеючага ільну. Ёй зрабілася радасна, як ніколі. Яна нібы на крыллях ляцела ў сваю будучыню.

— Ты-ж не забывай, пішы мне пра свае поспехі, — сказала Алена.

— А як-жа! Хіба-ж забуду? Не забуду, Леначка! Не забуду.

Радыё абвясціла пасадку. Людзі валам павалілі на перон. У натоўпе віднелася валіна малінавае паліто.

# Пясняр народа

Пяцьдзесят год таму назад, 15(28) мая 1905 года, у рускай газеце «Северо-Западный край», якая ў той час была звязана з мінскай соцыял-дэмакратычнай арганізацыяй, з'явіўся верш Янкі Купалы «Мужык». Малады паэт гучна абвясціў у гэтым творы, што працоўны беларус не нявольнік, а чалавек, які мае права на існаванне, якому належыць будучыня.

Я. Купала выступіў у беларускай літаратуры ў перыяд першай рускай рэвалюцыі, і яго творчасць была жывым водгукам рэвалюцыйнага народнага абуджэння.

Не толькі першы друкаваны твор Я. Купалы з'явіўся на старонках рускай газеты. Першыя зборнікі вершаў паэта «Жалейка» (1908 г.) і «Гусляр» (1910 г.) былі выдадзены ў Расіі, у Пецярбургу.

Адным з першых заўважыў маладога беларускага паэта вялікі рускі пралетарскі пісьменнік Максім Горкі, які ў 1910 годзе ў пісьме да украінскага пісьменніка М. Кацюбінскага пісаў: «У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала — вельмі цікавыя хлопцы. Проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра». М. Горкага вельмі моцна ўсхваляваў верш Я. Купалы «А хто там ідзе?». Аляксей Максімавіч пераклаў гэты верш на рускую мову, каб пазнаёміць з ім шырокія колы рускіх чытачоў. Пазней творы Я. Купалы перакладалі

Вам на памяць Серп і Молат
Даравала доля,
Каб з вас кожны біў, як волат,
Ня гнуўся ніколі

Каб здабытую свабоду
Знал, шанавал
І ў цяжкую прыгоду
Ўсталі грознай хваляй.

Зашумелі, загудзелі,
Як віхор сусветны,
Не праспалі ў пасьцелі
Волі агняцветнай.

Аўтограф верша Я. Купалы.

на рускую мову такія вядомыя рускія паэты, як В. Брусаў, Э. Багрыцкі, М. Ісакоўскі, А. Твардоўскі, А. Пракоф'еў і іншыя.

У далёкія змрочныя гады царызма Я. Купала заклікаў працоўных да барацьбы за свабоду і шчасце. Паэт марыў аб тым, каб да сэрца народа дайшла яго паэзія.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая вызваліла працоўных ад прыгнёту, здзейсніла гэтую мару паэта.

На Беларусі няма такога кутка, дзе не гучалі-б сёння Купалавы вершы і песні. Пасля



**Янка Купала.** (Здымак зроблены ў 1921 г.)

Кастрычніка ў БССР да 1953 года выйшла 61 кніга Я. Купалы тыражом 493 000 экземпляраў.

Як сказаў народны паэт Беларусі Якуб Колас: «Паэзія Янкі Купалы — гэта квітнеючы і чароўны сад, дзе сабраны водыр беларускай зямлі. Яго песні будуць пераходзіць з пакалення ў пакаленне, яны будуць абуджаць у сэрцы людзей лепшыя пачуцці і лепшыя чалавечыя імкненні».

У сваіх вершах і паэмах Я. Купала глыбока раскрыў масавы працоўны гераізм савецкіх людзей, уславіў бальшавіцкую партыю, якая з'яднала братнія народы Савецкага Саюза ў адну дружную сям'ю, уславіў веліч і красу нашага жыцця. Нямала натхнёных, шчырых вершаў прысвяціў паэт камсамолу і нашай слаўнай моладзі.

Творчасць Я. Купалы з'ўляецца здабыткам не толькі беларускага народа.

Я. Купала — адзін з любімых паэтаў усяго савецкага народа. У савецкай краіне яго кнігі выдадзены на многіх нацыянальных мовах агульным тыражом 3 371 000 экземпляраў. Творы Я. Купалы шырока вядомы працоўным краін народнай дэмакратыі. Яны перакладзены на кітайскую, польскую, чэшскую, славацкую, балгарскую, румынскую, венгерскую і многія іншыя мовы.

Імем Янкі Купалы названы калгасы, школы, бібліятэкі, вуліцы ў Мінску і Вільнюсе, Кіеве і Ташкенце, параходы на Волзе і Беразіне.

**Беларускія і літоўскія піонеры каля дома-музея Янкі Купалы ў Вязынцы.**

Здымкі музея Я. Купалы.



# ЭКЗАМЕН

I. НАУМЕНКА

Дзень быў вясенні, сонца, не шкадуючы, пасылала на зямлю свае гарачыя праменні. Ці то ад гэтага сонечнага дня, ці, можа, ад таго, што студэнты ўпершыню ў сваім жыцці ішлі ў школу даваць самастойныя ўрокі, а магчыма, і па той простай прычыне, што кожнаму з гэтых людзей было крыху больш як па дваццаць гадоў, але студэнты былі радасна-ўзбуджанымі. Шум і смех напаўняў ціхую вуліцу на ўскраіне горада. Студэнтаў было дзесяць — сем дзяўчат і трое хлопцаў — усе чатырохкурснікі аддзялення беларускай мовы і літаратуры універсітэта.

— Там, дзе шмат дзяўчат, ладу не будзе, — зазначыў Іван Котаў, каржакаваты хлопец, які ішоў ззаду ўсіх. — Толькі адзін гоман...

— Ціхія, Іванка, патрэбны толькі там, дзе рыбу вудзяць, — не засталася ў даўгу Ніна Кукраш.

Школа на спакойнай Камароўскай вуліцы спадабалася студэнтам з першага позірку. Стаяла яна беленькая, нейкая ўтульная, а каля будынка яе развесілі голле дзве стромкія бярозкі.

Зайшоўшы ў школьны калідор, дзе панавала строгая і ўрачыстая цішыня, студэнты прыціхлі і самі. З класаў даносіліся прыглушаныя галасы дзяцей, спакойныя, разважлівыя пытанні настаўнікаў. Ішлі ўрокі...

Спадабалася студэнтам і ўрачыстая цішыня, і чысціня ў калідорах, і насценгазеты, якія віселі на сценах. Марыя Васільеўна Ядрэўская, дырэктар школы, не пашкадавала часу, каб пазнаёміць будучых калег з работай калектыву.

Школа па паспяховасці займае адно з першых месц у горадзе. З дысцыплінай — таксама не блага. Толькі вось у VI «А» класе не ўсё яшчэ наладзілася. Да апошняга часу школа была жаночай. Пры пераходзе на сумеснае навучанне сюды прыйшлі новыя вучні. Пра іх не скажаш нічога дрэннага, але ёсць і такія, з якімі трэба яшчэ шмат працаваць. У VI «А» трапіла некалькі хлопчыкаў, якія цягнуць назад увесь клас. Адным словам, у гэтым класе не ўсе ўрокі праходзяць гладка...

Марыя Васільеўна не няволіла студэнтаў. Яна сказала, што яны могуць і адмовіцца ад практычных урокаў у VI «А» класе. Адна справа — арганізаваны, дысцыплінаваны клас, і зусім іншае — калектыў, які яшчэ трэба згуртаваць...

Студэнты не адмовіліся ад VI «А» — самага цяжкага класа ў школе.

— Наперадзе ў нас цэлы месяц, — сказала Ніна Кукраш. — Не можа быць, каб за гэты час мы нічога не зрабілі...

Класнымі кіраўнікамі ў VI «А» пайшлі Іван Котаў, Леанід Курбека і Клара Шчарбакова, «моцныя», як называюць іх у групе. Першыя ўрокі трэба было даваць Ніне Кукраш, Івану Котаву і Клары Шчарбаковай.

Клас сапраўды быў «цяжкім». Першы тыдзень студэнты адбывалі ў ім так званую пасіўную практыку. Яны сядзелі ў класе і слухалі ўрокі настаўнікаў, набіраліся, як кажуць, вопыту. Гэтыя дні былі бадай самымі напружанымі для тых, каму ў хуткім часе трэба было даваць самастойныя ўрокі тут, у гэтым класе. Ды як-жа не быць таму напружанню, калі ў класе бывалі такія здарэнні, пра якія не вычытаеш ні ў адной методыцы.

На адным з урокаў з парты падняўся даволі ладны хлапец, спакойна прайшоў да вешалкі і пачаў корпацца ў кішэнях паліто.

— Макушын, чаму ты дазволу не спытаў? — усхвалявана сказала настаўніца. — Сядзь зараз-жа!

— Знайду сцірку і сяду, — спакойна сказаў той. — У мяне клякса...

На наступным уроку Лёва Макушын заняўся папяровымі авіямадэлямі. Дарэчы, інтарэс да гэтага праявіў не адзін толькі ён. Папяровыя самалёты майстравалі і Яўсей Шаменчык, і Валерый Валаховіч. Папяровыя «знішчальнікі» пераляталі з кутка ў кут, «авіятары» хіхікалі. І гэта ў той час, калі настаўніца тлумачыла новы матэрыял і тлумачыла, трэба сказаць, цікава.

Пасля ўсяго гэтага студэнты проста збянтэжыліся.

Высветлілася, што завадатарам вэрхалу ў класе часцей за ўсё бывае Лёва Макушын. Ён даволі здольны, але перарастак. Магчыма, гэты хлопец лічыць, што яму, наогул, няма чаго рабіць у шостым класе. Пад уплыў Макушына час-ад-часу трапляюць і Яўсей Шаменчык, і Валерый Валаховіч, якія лічаць яго нават «героем».

— Трэба добра прабраць гэтага буяна, каб яму сорамна стала, — выказаў думку Іван Котаў.

З ім згадзіліся. Назаўтра ў VI «А» вісела насценгазета. Адна заметка трапна высмейвала прыгоды Макушына на ўроку. Пад заметкай красавалася карыкатура — «Першы ў класе хлопец». Подпіс пад карыкатурай зрабілі вершаваны.

Газету ў класе чыталі з цікавасцю, але Лёва нават брывом не павёў. Ён, скасавурыўшыся на карыкатуру, злёгку прысвіснуў:

— Падумаеш, намалявалі!.. Праз тыдзень здымуць...

Яўсей Шаменчык і Валерый Валаховіч ішлі па пятах за Макушыным, а ў вачах у іх гарэлі іскрынкі захаплення.

Насценгазета жаданага эфекту не дала. Трэба было шукаць нейкае новае выйсце.

— З бацькамі Макушына трэба пагаварыць, — унеслі прапанову дзяўчаты. — Што з такім хуліганам другое зробіш...

Але тут высветлілася, што бацькі ў Макушына няма, ён загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны. Маці заўсёды на рабоце.

Наважылі правесці класны сход, намеціць цікавы парадак дня, пагаварыць з вучнямі шчыра, па-сяброўску. Але такі сход трэба было рыхтаваць загадзя, а ўрок Ніны Кукраш па беларускаму чытанню — паслязаўтра. А што, калі і на гэтым уроку Макушын надумае пускаць самалёты?

Ніна Кукраш не падавала і выгляду, што яна баіцца. Але ўсе ведалі, што дзяўчына хвалюецца. Клара Шчарбакова дык тая адкрыта прызнавалася, што дрэнна спіць. Ды і дзе ты тут заснеш, калі перад вачыма так і стаіць Макушын, які, чаго добрага, яшчэ пусціцца на ўроку ў скокі. Не трывожыўся адзін толькі Іван Котаў. Было відаць, што яго Макушын пабойваецца. Пры Котаве ён крыху стрымліваўся.

— Не хвалюйся, Ніна, — суцяшаў аднакурсніцу Іван. — На тваім уроку я сяду побач з Макушыным. Ён у мяне і не пікне...

— На ўсіх уроках не прасядзіш, — загаманілі дзяўчаты. — Дый наогул на такой методыцы далёка не паедзеш...

Ніна Кукраш, між тым, старанна рыхтавалася да свайго ўрока. Тэмай гэтага ўрока быў верш



Студэнткі-практыкантки К. Шчарбакова, Е. Гарбатоўская і Н. Кукраш з вучнямі шостага класа.
Фото П. Нікіціна.

Максіма Танка «Агні Мінска». Дзяўчына даўно ўжо на памяць вывучыла гэты верш, даўно склала канспект урока. Ва універсітэце дацэнт Міхаіл Іванавіч Жыркевіч заўсёды вучыў укладаць ва ўрок душу, а калі і хвалявацца, дык толькі хваляваннем творчым...

Дзяўчына разумела, што, разбіраючы верш, у якім гутарка ідзе аб аднаўленні Мінска, яна павінна знайсці нейкія асаблівыя словы, інтанацыі, каб верш гэты надоўга запомніўся вучням. Яна ўспомніла, якім сама ўпершыню ўбачыла родны горад. Тады яшчэ Ніна вучылася ў школе, здаецца, таксама ў шостым класе. Яна прыехала з цёткай у Мінск і спалохалася. Горада не было. Уздоўж вуліц ляжалі горы камення, а каробкі разбураных дамоў пазіралі чорнымі праймамі вокан.

Калі Ніна прыехала вучыцца ва універсітэт, яна не пазнала горада. Ён, нібы велікан, падняўся з руін і папялішчаў, распраставў свае шырокія плечы. Там, дзе былі пустыры і стаялі мёртвыя каробкі, цяпер ляжала прыгожая зялёная вуліца. Ніна з сяброўкамі ішла па вуліцах і не магла адарваць позірку ад новых дамоў, ад вясёлых скавераў.

Усе гэтыя чатыры гады Мінск рос, будаваўся ўжо на вачах у Ніны. Пра ўсё гэта расказваў у сваім вершы паэт, яго думку трэба было данесці да вучняў ёй, будучай настаўніцы.

— Чалавека трэба будаваць, як новы горад, як новы дом, — заўсёды гаварыў Міхаіл Іванавіч Жыркевіч, вопытны, заслужаны педагог. — І гэта павінны зрабіць вы, настаўнікі, будаўнікі маладых чалавечых душ. Кожны ваш урок, у які ўклалі вы часцінку сваёй душы, гэта цаглінка ў падмурак характару маладога чалавека, яго погляду на жыццё...

І вось настаў дзень, калі Ніне Кукраш трэба было даваць свой урок. Студэнты пайшлі ў клас групай, і неяк так здарылася, што Іван Котаў не паспеў сесці побач з Макушыным. Макушын сядзеў адзін і з-пад ілба глядзеў на дзяўчыну, якая займала цяпер месца настаўніцы за сталом. Клас сачыў за кожным рухам студэнткі, за кожным яе словам. Усталявалася ўрачыстая цішыня, тая цішыня, якая бывае, калі ўсе чакаюць чаго-небудзь новага, незвычайнага.

— Адказваць пойдзе Оля Апацёнак!

Дзяўчынка адказвала добра, студэнтка выклікала яшчэ двух вучняў. Пятнаццаць хвілін, вызначаных на апытанне вучняў па пройдзенаму матэрыялу, прайшлі досыць гладка. Макушын, хоць і не вельмі спакойна сядзеў, але пакуль што ніякай штукі не выкінуў.

Нарэшце, наступіў самы адказны момант — тлумачэнне новага матэрыялу. Ніна разгарнула часопіс, дзе на каляровай укладцы была змешчана карціна мастака В. Волкава «Вызваленне Мінска».

— Макушын, ідзі да дошкі, прымацуй карціну,—сказала Ніна.

Ніна пачала чытаць верш, і голас яе зазвінеў, як нацягнутая струна:

Працавіты наш дзень адпачыць адышоў,
Толькі стужка зары дагарае над садам.
Ёй на змену заззялі агні ліхтароў,
Падпаліўшы вітрыны і вокны дамоў
І ўгары алы сцяг па-над Домам урада...

Чытала дзяўчына выразна, усхвалявана, з тым пачуццём, якое ў хвіліны душэўнага ўздыму суцэльнай хваляй ахоплівае чалавека. Хваляванне студэнткі перадалося і класу.

Пасля Ніна тлумачыла кожны радок, кожны абзац. Яна гаварыла пра аднаўленне горада, пра новыя заводы, што ўзніклі ў беларускай сталіцы, пра спаборніцтва будаўнікоў Мінска і гераічнага Сталінграда.

Макушын сядзеў і не паварушыўся, і студэнтка, гледзячы на гэтага хлопца, які слухаў яе ўважліва, адчула сябе больш упэўнена. Цяпер трэба было ўцягнуць у жывую размову клас.

— Макушын,—сказала Ніна, — якой была ваша вуліца, калі ты хадзіў у першы клас?

Лёва борздзенька ўсхапіўся з парты і на нейкую хвіліну запнуўся. Ён хваляваўся...

— Таго дома, дзе мы зараз жывем, яшчэ не было, — сказаў ён. — Мы з мамай жылі ў падвале, бо ўвесь Мінск быў разбіты.

Урок, які дала Ніна Кукраш, па заведзенай традыцыі, абмяркоўвалі ўсе студэнты разам з настаўнікамі. У калідоры каля класа, дзе ішло гэтае абмеркаванне, стаялі і «хварэлі» шасцікласнікі. Сярод іх быў і Лёва Макушын.

Пасля давалі ўрокі ў гэтым-жа, VI «А» класе Іван Котаў, Клара Шчарбакова, Леанід Курбека. Урокі прайшлі добра, і нікому са студэнтаў не прышлося скардзіцца на Макушына. Трымаў ён сябе, як і трэба. І кожны з маладых настаўнікаў можа ўпершыню зразумеў, што ад яго работы, ад яго ўмення шмат у чым залежыць будучыня і Макушына, і ўсіх сённяшніх шасцікласнікаў, якія заўтра стануць грамадзянамі нашай краіны.

**г. Мінск,**
**28-ая сярэдняя школа.**



↑ Маляванне — любімы занятак большасці юнакоў, дзяўчат і пажылых людзей, што аб'яднаны ў гэтым гуртку. Бадай іменна яны пачынаюць працоўны дзень палаца: двое-ж юнакоў пісалі сёння эцюды на ўсходзе сонца! Для многіх з іх прафесія мастака стала марай, асноўным імкненнем у жыцці. Заняткі ў гуртку многія маладыя людзі лічаць першай спробай здольнасцей, самаправеркай перад паступленнем у мастацкае вучылішча.

**Любім**





← У гуртку займаюцца многія старшакласнікі школ Гомеля. Вось адзін з іх — комсамолец Яўгені Пакаташкін. У гэтым годзе ён заканчвае дзесяты клас. Можа, частыя наведванні гуртка перашкаджаюць яму ў вучобе? «Што вы! — ускліквае ён. — Калі займаешся маляваннем, дык не стамляешся, а, наадварот, набіраешся сіл!»

У шматлікіх памяшканнях Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў імя В. І. Леніна ажыўленне пачынаецца з самага рання. Вось з дальняга канца калідора данеслася мелодыя вальса — прыступіў да рэпетыцыі аркестр. Адчыніліся дзверы аднаго з пакояў, і мы ўбачылі вялікую групу дзяўчат, схіленых над сталом· «Адзенне, — гаворыць нейчы спакойны голас, — павінна ўпрыгожваць чалавека. Важна не толькі ўмець пашыць сукенку, — важна ўмець пашыць яе прыгожа!» Гэта сабраўся на заняткі гурток кройкі і шыцця.

«Прагляд выступлення танцавальнага калектыву адбудзецца сёння у 18-00!» — напамінае вывешаная ў вестыбюлі аб'ява.

«Сустрэча баксёраў!..»

«Прадаўжаецца запіс у секцыю гімнастыкі!..»

«Літаратурны вечар!..»

Але вось з вуліцы ўваходзяць два юнакі. На перакінутых праз плячо рамянях вісяць невялікія плоскія драўляныя скрыначкі. На крышках скрыначак высахшыя і пацямнеўшыя мазкі масляных фарбаў. Юнакоў сустракае пажылы хударлявы чалавек.

— Ну, як? Здаецца, сёння ўсход сонца быў такі, як вам трэба!

— Так, Барыс Фёдаравіч! Іменна такі! Вось паглядзіце... — яны пачынаюць здымаць з сябе рамяні, хочуць адчыніць скрынкі.

— Нашто-ж так спяшацца! — спыняе іх той, каго назвалі Барысам Фёдаравічам. — Пойдзем у пакой!

І ўсе трое, працягваючы гаворку, накіроўваюцца наверх. Прайшоўшы за імі, мы трапілі ў вялікі светлы пакой, застаўлены мальбертамі, крэсламі і маленькімі столікамі. На сценах — мноства малюнкаў і карцін, гіпсавых зьлепкаў. На некалькіх століках — нацюрморты, зробленыя з кавалкаў дрэпіровачных тканін, прадметаў хатняга ўжытку. У пакоі стаіць пах шкіпінару і фарбы.

Гэта — пакой гуртка выяўленчых мастацтваў, якім кіруе вядомы ў нашай рэспубліцы мастак і педагог Барыс Фёдаравіч Звенігародскі.



↑

Творчасць гуртКоўцаў ужо на самых першых кроках адлюстроўвае іх лепшыя пачуцці, і самае яркае з іх — пачуцце любві да Радзімы. Летам і зімой робяць яны паездкі па роднаму краю, вучацца адлюстроўваць на палатне і паперы любыя сэрцу пейзажы, воблік савецкіх людзей і вынікі іх натхнёнай працы.

Над серыяй малюнкаў аб навабудоўлях Гомеля працуюць комсамольцы Уладзімір Плескачэўскі (справа) і Міхаіл Шапіра.

## ...ы Занятак



↑

У кватэрах гамяльчан нярэдка можна сустрэць работы гуртКоўцаў якія выкарыстоўваюцца для ўпрыгожвання жылля·

— Паглядзі, бабуля, якую сароку намалявала Люда! — гаворыць маленькі Жэня. Яго сястра, служачая станцыі Гомель Людміла Зотава — актыўны член ізагуртка.

Сёння Люда прышла ў палац з незвычайнай мэтай. Комсамольская арганізацыя даручыла ёй аформіць сатырычную насценную газету. З-пад рукі пачынаючага мастака паяўляюцца карыкатуры на парушальнікаў працоўнай дысцыпліны, малюнкі, якія бічуюць непаладкі ў рабоце станцыі.

**А. ДЗІТЛАЎ.**

↓




Генадзі МОХАРТ

### ВЯСЁЛКА

Дажджавыя хмаркі ў шлях далёкі
Ветразямі ціха адплылі,
Абняла вясёлка край шырокі,
Сонца сее промні на палі.

Маці сына вывела малога
Раніцай вясноваю на двор.
Перад ім шырокая дарога,
Вабіць хлопца сонечны прастор.

І спрабуе першы крок хлапчына.
Хораша ісці ім удваіх!..
Ён глядзіць цікаўнымі вачыма,
Ад вясёлкі не адводзіць іх.

А яна у небе ярка зззяе,
Наваколле абдымае ўсё,
Нібы арка ўстала залатая,
Праз якую ён ідзе ў жыццё.

### МОРА

За хваляй
Kацілася хваля к нагам,
І мора
Прыбоем шумела.
Не думаў,
Не ведаў, што іменна там
К табе падыйду я нясмела.

Свяціліся вочы твае
Сінявой,
На мора ты прагна глядзела,
Як быццам забраць
Тое мора з сабой
Душою і сэрцам хацела.

Цябе я навекі
Запомніў такой,
І дум аграному нямала:
Ці хвалі занеслі
Мне ў сэрца прыбой,
Ці сэрца мне
Ты ўсхвалявала?

Бывай, прыгажуня.
Шум хваляў заціх,
Душа-ж, быццам мора, —
Без краю.
І ў сэрцы,
І ў думках штодзённых сваіх
Адну цяпер мару хаваю:

Вось так хвалявацца
У маёй старане
Жытнёвае мора прымушу,
Каб вобраз твой ясны
Прынеслі ка мне
Ягоныя хвалі на сушу.

Пятрусь МАКАЛЬ

### ЛОКАЦЬ ДРУГА

Даліны, пералескі і узгоркі!
Вітаюць шчыра важкі крок байца.
Ад пылу пасівелі гімнасцёркі,
А шляху не прадбачыцца канца.

Напэўна, ужо твае самлелі-б ногі,
Калі-б адзін ты столькі вёрст прайшоў;
Напэўна, ужо зваліўся-б ад знямогі,
Каб поруч не было таварышоў.

Хай спёка ўлетку, хай мяцель зімою,
Не спынішся ў дарозе ні на міг,
Пакуль сваёй салдацкаю рукою
Ты адчуваеш цвёрды локаць іх.

### РАНІЦОЙ...

Завітае часам да мяне
Смутак аб вясне маёй юначай...
Аб далёкай дарагой вясне,
Той, з якой спаткання не прызначыш.

На асфальце, мокрым ад дажджоў,
Дагарае лісце, быццам золак.
Кліча шлях і вабяць далі зноў,
Крочыш ты з таварышам вясёлым...

І яму няма ніякіх спраў
Да тваіх лірычных успамінаў.
Так, як ты, ён, мабыць, не кахаў
І каханай дома не пакінуў.

Несціханы гоман па баках,
Ты ідзеш такою люднай сцежкай.
Сонца, зачапіўшыся за гмах,
Пазірае на цябе з усмешкай.

Ты ідзеш. Дарэшты смутак твой
Грукатам заглушан будаўнічым.
Хай-жа кожнай новай раніцой
Нас у шлях наперад радасць кліча!

# На карысць чалавецтва

XX стагоддзе ўвойдзе ў гісторыю чалавецтва, як эпоха найвялікшых адкрыццяў, эпоха трыумфальнага шэсця навукі і тэхнікі.

Пройдуць стагоддзі, чалавек навучыцца кіраваць стыхіяй, ствараць штучны клімат, рабіць касмічныя падарожжы за межы нашай планеты. І ўсімі гэтымі поспехамі нашы будучыя нашчадкі будуць абавязаны чалавечаму генію нашай эпохі, які адкрыў атамную энергію і прымяніў яе на карысць чалавецтву.

Паняцце «атамная энергія» — надзвычай шырокае. Калі мы гаворым пра гэтую практычна невычарпальную крыніцу энергіі, мы маем на ўвазе і магутныя атамныя электрастанцыі і грандыёзныя касмічныя заводы атамнай энергіі — Сонца і шматлікія зоркі. Гаворачы пра атамную энергію, мы маем на ўвазе таксама важныя па значэнню «малыя формы» атамнай энергіі, якімі з'яўляюцца розныя радыёактыўныя выпрамяненні.

Выкарыстанне атамнай энергіі ў канцэнтраванай форме дазволіць ужо ў бліжэйшым будучым вырашыць важнейшую для чалавецтва праблему энергетычных рэсурсаў.

Да апошняга часу самымі распаўсюджанымі крыніцамі энергіі былі каменны вугаль, нафта і водная энергія. Але прыродныя запасы вугалю і нафты абмежаваныя. Нават пры сучасных тэмпах выпрацоўкі электраэнергіі гэтыя запасы праз некалькі соцень год будуць вычарпаны, а ў маловодных раёнах, напрыклад, Сярэдняй Азіі, нельга разлічваць на вельмі эканамічную гідраэлектрастанцыю. Такім чынам, пытанне аб крыніцах энергіі будучага ўжо цяпер пастаўлена ва ўсёй шырыні.

Савецкія вучоныя знайшлі вырашэнне паліўнай праблемы ў выкарыстанні практычна невычарпальных прыродных энергетычных запасаў — «ядзернага гаручага». Савецкі Саюз зрабіў важнейшы ў гісторыі чалавецтва крок у справе мірнага выкарыстання атамнай энергіі. 27 ліпеня 1954 года ўведзена ў эксплуатацыю першая прамысловая электрастанцыя на атамнай энергіі з карыснай магутнасцю ў 5000 кілават. Яна дае ток для прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Прадаўжаюцца работы па стварэнню прамысловых атамных электрастанцый магутнасцю ў 50—100 тысяч кілават.

Што-ж уяўляе сабой атамная энергія?

Для высвятлення гэтага пытання трэба ўспомніць некаторыя асноўныя звесткі аб будове матэрыі. Вядома, што ўсе вяшчэствы, якія сустракаюцца ў прыродзе, складаюцца з атамаў. Каб уявіць велічыню атама, прывядзем такі прыклад: у 1 сантыметры змяшчаецца ў рад каля 100 мільёнаў атамаў.

У цэнтры атама знаходзіцца атамнае ядро. Вакол ядра рухаюцца электроны — найдрабнейшыя часцінкі матэрыі, якія нясуць электрычны зарад. На долю ядра прыпадае 95% усёй масы атама, а велічыня ядра меншая за велічыню ўсяго атама ў некалькі мільярдаў разоў. Усе атамныя ядры складаюцца з двух тыпаў часцінак прыкладна роўнай масы — пратонаў і нейтронаў. Пратоны маюць дадатны зарад, роўны па велічыні адмоўнаму зараду электрона. Нейтрон з'яўляецца нейтральнай, незараджанай часцінкай. Лік пратонаў у ядры заўсёды роўны ліку электронаў у атаме. Таму атамы ўсіх хімічных элементаў у звычайных умовах нейтральныя.

Самае простае ядро — ядро атама вадарода — складаецца з аднаго пратона, а атам вадарода складаецца з гэтага ядра і аднаго электрона, які рухаецца вакол ядра.

Самае складанае з прыродных ядзер — ядро урана — складаецца з 92 пратонаў і 146 нейтронаў, а ў склад атама ўваходзіць яшчэ 92 электроны. Важна адзначыць, што ва ўсіх ядрах з вялікай атамнай вагой выяўляецца «лішак» нейтронаў над пратонамі. Гэты «лішак» і ўяўляе сабой «энергетычныя рэсурсы» атама.

Сучасная атамная фізіка ў значнай ступені абавязана сваімі дасягненнямі славутаму рускаму вучонаму Д. І. Мендзелееву. Адкрыты ім перыядычны закон раскрывае цесную сувязь паміж рознымі атамамі. Другі рускі вучоны — А. М. Бутлераў, які стварыў тэорыю будовы вешчаства, таксама ўнёс вялікі ўклад у развіццё сучаснай фізікі атамнага ядра. На падставе глыбокага аналізу перыядычнага закона Бутлераў прышоў к вываду, што павінны існаваць такія працэсы, пры якіх будзе праходзіць дзяленне складаных атамаў.

Такім працэсам з'яўляецца дзяленне ядзер з вялікай атамнай вагою, адкрытае ў 1939 годзе. Сутнасць гэтага працэса заключаецца ў тым, што, напрыклад, ядро урана пры «бамбардыроўцы» яго нейтронамі дзеліцца на два ядры, прыкладна роўныя паміж сабою па масе. Дзяленне ядзер урана суправаджаецца выдзяленнем вялікай колькасці энергіі, якая сканцэнтравана ўнутры атамных ядзер. Акрамя таго, пры кожным дзяленні ядра урана з яго вылятае некалькі новых нейтронаў, здольных прывесці да новага дзялення другіх ядзер урана. Так узнікае так званы лавінны працэс дзялення урана. Адбываецца ён у атамных або уранавых «катлах». Пры гэтым выдзяляецца велізарная колькасць цеплавой энергіі, якая ператвараецца потым ў электрычную энергію.

Адзін грам урана пры дзяленні выдзяляе такую колькасць цеплавой энергіі, якая выдзяляецца пры поўным спальванні амаль трох тон вугалю. Можна падлічыць таксама, што для работы атамнай электрастанцыі магутнасцю ў 1 мільён кілават на працягу аднаго года спатрэбіцца «спаліць» толькі каля 250 кг. урана.

Атамная энергія можа выдзяляцца не толькі пры дзяленні цяжкіх ядзер, але і пры злучэнні пратонаў і нейтронаў у ядры элементаў з малою атамнаю вагой (напрыклад, пры ўтварэнні ядра атама гелія з чатырох ядзер вадарода). Такія працэсы адбываюцца ў нетрах Сонца і іншых зорак, дзе тэмпература дасягае некалькіх мільёнаў градусаў, а ціск — некалькіх мільёнаў атмасфер. Пры гэтым выдзяляецца велізарная колькасць энергіі. Можна спаслацца на тое, што, напрыклад, атамная энергія, якая «выпрацоўваецца» на «сонечным заводзе», настолькі вялікая, што для выпрацоўкі яе за кошт каменнага вугалю спатрэбілася-б у фантастычнай качагарцы кожны тыдзень спальваць масу вугалю, роўную масе зямнога шара.

Адсюль зразумела, якія небывалыя ў гісторыі чалавецтва магчымасці для ўздыму ўсёй народнай гаспадаркі адкрывае мірнае выкарыстанне атамнай энергіі.

Шырокае прымяненне ў нашай краіне знаходзіць атамная энергія «малых форм». Гэты від атамнай энергіі ўяўляе сабою розныя радыёактыўныя выпрамяненні. Існуюць розныя натуральныя элементы, як, напрыклад, радый, атамныя ядры якіх самі бесперапынна распадаюцца, выпраменьваючы часцінкі, што ўваходзяць у іх склад. Існуюць таксама і хімічныя элементы, якія набываюць гэтыя якасці пры папярэдняй «бамбардыроўцы» іх электронамі. Гэта — штучна радыёактыўныя элементы, або, як іх называюць, радыёактыўныя ізатопы. Інтэнсіўнасць радыёактыўных выпрамяненняў такіх элементаў надзвычай вялікая ў параўнанні з натуральнымі. Выпрамяненні радыёактыўных ізатопаў пранікаюць праз рознастайныя перашкоды, якіх не могуць пераадолець, напрыклад, рэнтгенаўскія праменні.

«Малыя формы» атамнай энергіі знаходзяць самае шырокае прымяненне ў сучаснай навуцы і тэхніцы. У металургіі радыёактыўныя выпрамяненні прымяняюцца для прасвечвання сталі і металічных вырабаў таўшчынёй да 300 мм, у той час як самымі магутнымі рэнтгенаўскімі ўстаноўкамі ўдаецца кантраляваць якасць сталёвых вырабаў таўшчынёй да 60 мм.

Радыёактыўныя ізатопы прымяняюцца і для сістэматычнага кантролю над працэсамі, што адбываюцца ў доменных печах.

У сельскай гаспадарцы радыёактыўныя выпрамяненні з поспехам выкарыстоўваюцца пры кансерваванні гародніны, для кантролю за якасцю насення і, нарэшце, для павышэння ўраджаю гародніны. У хіміі прымяненне радыёактыўных ізатопаў дазволіла пранікнуць у найглыбейшыя таямніцы будовы складаных хімічных злучэнняў, высветліць пытанні, звязаныя з сінтэтычнай вытворчасцю каучуку.

Асаблівае значэнне набывае прымяненне «малых форм» атамнай энергіі ў медыцыне. Радыёактыўныя ізатопы дазваляюць урачу ўстанавіць ачагі захворвання ў арганізме чалавека, прасачыць ход і развіццё гэтага захворвання. Амаль вырашанай праблемай з'яўляецца цяпер кансервацыя крыві і захаванне яе на працягу доўгага часу. Радыёактыўныя ізатопы прымяняюцца для лячэння пухліны шчытавіднай залозы, у барацьбе з белакроўем. Савецкімі вучонымі створана ўстаноўка ГУТ-400 (гама-ўстаноўка тэрапеўтычная), выпрамяненне якой спрыяльна дзейнічае пры лячэнні цэлага раду цяжкіх захворванняў.

Такі кароткі пералік тых шматлікіх галін, у якіх прымяняецца ў нашай краіне атамная энергія. Савецкая навука, пастаўленая на службу гуманным мэтам мірнага выкарыстання атамнай энергіі, велізарнымі крокамі рухаецца ўперад, па шляху прагрэсу.

З глыбокім абурэннем сочыць усё міралюбівае чалавецтва за прошукамі падпальшчыкаў новай вайны, якія хочуць выкарыстаць велізарныя адкрыцці навукі ў мэтах знішчэння народаў. Але не суджана ажыццявіцца крывавым планам атамшчыкаў. Народы свету не хочуць вайны. Аб гэтым сведчыць гарачы водгук працоўных усяго свету на Зварот Сусветнага Савета Міру аб забароне атамнай зброі. Аб гэтым сведчаць усё новыя і новыя мільёны подпісаў пад Зваротам.

**Л. СОРЫН,**
**загадчык кафедры фізікі Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.**

**Схема атамнага рэактара.**



# ВЯЛІКІ НЯМЕЦКІ ПАЭТ

**Да 150-годдзя з дня смерці Фрыдрыха Шылера.**

**У маі 1955 года нямецкі народ і ўсё прагрэсіўнае чалавецтва адзначае 150-годдзе з дня смерці Фрыдрыха Шылера — вялікага паэта і драматурга.**

**Свае юнацкія гады Фрыдрых Шылер правёў у герцагстве Вюртэмбергскім, ператвораным у той час амаль у суцэльную казарму, што пастаўляла ландскнехтаў для войнаў усім, хто за гэта добра плаціў. Маленькага Фрыдрыха бацька, палкавы фельчар, аддаў у ваенную школу, пасля якой Шылер закончыў ваенную акадэмію. У гады вучобы ён захапляецца чытаннем твораў старажытных аўтараў, Шэкспірам, французскімі асветнікамі Вальтэрам, Русо і іншымі. Жудасная нямецкая рэчаіснасць, неабмежаванае панаванне дэспатызму і прыгнёту выклікалі дзейсны, моцны пратэст сярод лепшых людзей таго часу.**

**Адразу-ж пасля заканчэння ваеннай акадэміі (1780 г.) Шылер піша драму «Разбойнікі», прасякнутую духам пратэсту супраць дэспатызму і крывадушша.**

**Феадальнае самавольства і эгаізм, паказаныя ў характары і ўчынках Франца Мора, закляймаваны ў творы так гнеўна, што п'есу не выратавалі нават пастаноўшчыкі, якія перанеслі дзеянне ў XVI стагоддзе. Эпіграф да драмы — «Чаго не вылечваюць лекі, вылечвае жалеза, чаго не вылечвае жалеза, вылечвае агонь» — быў апраўданы палымяным пратэстам супраць насілля і прыгнёту. П'еса паказала, што ў Карлсшуле вырас не паслухмяны палкавы медык, а палымяны гуманіст, які імкнецца вылечыць самыя глыбокія раны і заганы грамадства.**

**Шылер ведаў, што п'еса не пазбегне праследаванняў. Але «наступ на тыранаў», як было сказана ў падзагалоўку драмы, паэт вядзе зноў у «Каварстве і каханні» — «першай нямецкай палітычна тэндэнцыйнай драме» (Ф. Энгельс).**

**Незабыўнае ўражанне на беларускіх гледачоў заусёды робіць гэтая выдатная драма ў яркай сцэнічнай ігры артыстаў Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы. І сягоння, як шмат год таму назад, бачаць гледачы на сцэне два непрымірыма варожыя адзін другому светы: дэспатычнага каварства і шчырага кахання маленькіх, простых людзей. Гіне шчасце, руйнуецца каханне Фердынанда і Луізы, якія ўцягнуты ў няроўную барацьбу гэтых сіл. Гіне і Фердынанд, які спрабуе захаваць дваранскае панядце чэсці ў барацьбе за чалавечую годнасць, гіне і Луіза, паводзіны якой красамоўна сцвярджаюць перавагу маралі простых людзей над воўчымі законамі і звычкамі тыранаў і іх паплечнікаў.**

**Як аўтар праслаўленых шэдэўраў нямецкай лірыкі («Пальчатка», «Кубак», «Песня аб звоне»), Шылер выйшаў пераможцам у баладным спаборніцтве з Гётэ. Праз усю паэзію Шылера праходзіць ідэя свабоды, а захапляючы раман «Духавідзец» смела крытыкуе авантурыстаў, агентаў і рознастайных ашуканцаў каталіцкіх брацтваў. За час дзесяцігадовага сяброўства з Гётэ Шылер шмат узбагаціўся ў сэнсе гістарызма і рэалізма сваіх далейшых пошукаў. На новай аснове вярнуўся ён да драматургіі. Яго «Арлеанская дзева» прасякнута духам барацьбы за свабоду і нацыянальнае адзінства. У творах вялікага нямецкага паэта знайшла свой водгук і французская нацыянальная гераіня. Глыбокім гістарызмам і сапраўдным патрыятызмам прасякнута трылогія Шылера «Валенштэйн».**

**У апошнія гады жыцця Шылер быў захоплены грандыёзнай задумай народнай драмы, якая дазваляла яму кінуць погляд на «далейшыя перспектывы развіцця чалавечага роду». Гэтай выдатнай драмай быў «Вільгельм Тэль». У п'есе выведзены вядомы па гістарычных паданнях стралок Тэль, які не можа цярпець тыранічнага самавольства.**

**Прускія тэатральныя дзеячы, скарачаючы тэкст, рабілі ўсё магчымае, каб абясшкодзіць мяцежнае гучанне п'есы. Але Шылер у процівагу гэтаму ўвёў у фінал рукапісу для гамбургскага тэатра воклiч з сацэнь грудзей: «Свабода, свабода, свабода!»**

**У паэзіі Шылера гучыць пафас палымянай любві да чалавецтва. Недарма В. Г. Белінскі назваў Шылера «адвакатам усяго чалавецтва». Н. Г. Чэрнышэўскі пісаў, што пара паэзіі Шылера не мінула і не міне, пакуль чалавек будзе імкнуцца да чагосьці лепшага.**

**Д. ФАКТАРОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**



**Вуліца Комунараў — адна з цэнтральных магістралей літоўскай сталіцы.**
Фото Н. Вярзілава.

# Вільнюс соцыялістычны

**І. ГРЫГАС**

Калі падняцца на гару Гедыміна, перад вачыма адкрыецца прыгожая панарама сталіцы Совецкай Літвы — горада Вільнюса.

За гады совецкай улады Вільнюс стаў буйнейшым індустрыяльным цэнтрам Літвы. З дапамогай працоўных усіх брацкіх рэспублік у горадзе выраслі станкабудаўнічы завод «Жальгірыс», завод фарбавальных апаратаў, электралічыльнікаў, электратэхнічны завод «Эльфа», фабрыкі — швейная «Лелія», кандытарская «Пергале» і дзесяткі іншых. Іх прадукцыя вядома далёка за межамі Прыбалтыкі.

Выдатныя людзі працуюць на прадпрыемствах Вільнюса. У першых радах ідуць камсамольцы, моладзь. Усёй рэспубліцы вядомы імёны знатнага наватара токара-скарасніка станкабудаўнічага завода «Жальгірыс» Фабіёнаса Страздаса, майстра зборачнага цэха завода «Эльфа» Пятраса Жэконіса, кіраўніка брыгады токараў завода фарбавальных апаратаў Тамары Палікарпавай, брыгадзіра маладзёжнага калектыву муляроў Казіміраса Каралькевічуса.

Некалькі гадоў назад паштальён праходзіў многія кварталы, нідзе не спыняючыся. На рагу вуліц Басанавічаус і Альгірда не было дамоў. Цяпер тут вырас трохпавярховы светлы дом. Яго нядаўна засялілі рабочыя і інжынеры фабрыкі «Лелія».

Кватэра нумар чатыры. Дзверы адчыняе Она Петрукайтэ, брыгадзір канвеера швейнай фабрыкі.

— Вам пісьмо ад родных, — гаворыць паштальён дзяўчыне.

Твар Оны асвятляе ўсмешка. Гэта пісьмо з роднай вёскі, дзе яна нарадзілася і вырасла. Цяпер там, на месцы дробных сялянскіх надзелаў, расквітнеў багаты калгас імя Мічурына. Маці піша, што сям'я жыве добра, мае досыць хлеба і іншых прадуктаў.

Пра тое, як жыве дачка ў горадзе, бацькі добра ведаюць з яе пісем. Зусім нядаўна Она атрымала новую кватэру, з густам абсталявала яе.

У калідоры паштальён сустракае Людмілу Камарову і ўручае ёй цэлую кіпу пісем. Вядома, гэта ад сябровў, з якімі яна вучылася ў Ленінградскім тэхнікуме. У розных канцах краіны працуюць яе таварышы па вучобе. Валянціна Пахомава паехала на Волгу. У Баку працуе Яніна Скрабіна, Людміла Шашкіна — у Рызе. А Людміла Камарова ўжо некалькі гадоў працуе начальнікам цэха на вільнюскай фабрыцы «Лелія».

Маладыя спецыялісты, якія прыехалі з брацкіх рэспублік у сталіцу Літвы, перадаюць маладым літоўскім рабочым свае веды, навучаюць іх высокаму прафесійнаму майстэрству.

Мы расказалі тут толькі аб некалькіх жыхарах аднаго вялікага дома. А такіх дамоў у Вільнюсе сотні. На былой ускраіне сталіцы, каля парка «Вінгіс», выраслі новыя карпусы інтэрната Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. Там жывуць тысячы юнакоў і дзяўчат, дзяцей рабочых, калгаснікаў, працоўнай інтэлігенцыі, якім совецкая ўлада шырока адкрыла дзверы ў навуку. Апрача універсітэта, у Вільнюсе ёсць інстытуты — педагагічны, настаўніцкі, мастацкі, кансерваторыя, многа тэхнікумаў.

Упершыню ў гісторыі Літвы ў Вільнюсе заснавана Акадэмія навук з шматлікімі навукова-даследчымі інстытутамі.

За гады совецкай улады ў Літве вырас новы вялікі атрад інтэлігенцыі. Характэрны лёс таленавітага кампазітара Юлюса Юзелюнаса, аўтара першага літоўскага совецкага балета «На беразе мора». Многія гады ён быў шаўцом у мястэчку Жэймяліс. У час буржуазнага панавання таленавіты юнак не меў магчымасці вучыцца ў школе, развіваць свае здольнасці. Толькі пры совецкай уладзе, ва ўзросце 40 год, ён атрымаў адукацыю, паспяхова закончыў аспірантуру ў Ленінградзе і цяпер плённа працуе над буйнымі інструментальнымі творамі. Балет Юзелюнаса быў з поспехам паказаны на дэкадзе літоўскага мастацтва і літаратуры ў Маскве.

...Вечар. Загараюцца агні на цэнтральнай магістралі горада — праспекце Сталіна.

— Дземесіо, дземесіо! Калба Вільнюс! Увага, увага! Гаворыць Вільнюс! — разносіцца ў эфіры.

Совецкая Літва гаворыць са сваімі сынамі, паведамляе радасныя вынікі працоўнага дня рэспублікі, і сэрца кожнага літоўца загараецца жаданнем працаваць яшчэ лепш, каб быць вартым нашай цудоўнай Радзімы.

Сёння брацкіх рэспублік



# Салютэ

Ionас АВІЖУС

Апавяданне

Мал. С. Паплаўскага.

Салютэ падвозіла фураж для калгаснай жывёлы. Кожную раніцу яна запрагала старую худую клячу, якая атрымала клічку «Абжора» за тое, што ёй нельга было набрацца корму, брала ў жывёлаводаў пустыя мяшкі і ехала да адрыны. Тут яе сустракалі стары Мацеюс і два-тры падлеткі.

Саломарэзка прагавіта глытала ахапкі зляжалай канюшыны. Куча сечкі расла і расла: адзін за адным выстройваліся велізарныя, поўна напханыя мяхі.

Салютэ брала з калёс лейцы. Тоненькі і звонкі голас дзяўчыны абуджаў ад сну «Абжору». Кляча стрыгла адвіслымі вушамі і ляніва краналася з месца.

У Салютэ было радасна на сэрцы: прыемна-ж каму-небудзь дапамагаць.

Перш-на-перш яна заходзіла ў хлеў, у якім стаяў маладняк. Выгружаючы фураж, Салютэ разам з жывёлаводамі абмяркоўвала, ці паспее калгас да восені пабудаваць новыя хлявы. Вось было-б добра, каб паспеў! Тады ўся жывёла стаяла-б у адным месцы. Салютэ не трэба было-б увесь дзень развозіць фураж па раскіданых хутарах. Нарэшце, вельмі цікава, як будуць выглядаць новыя будыніны. Усе ведаюць, што асвятляць іх будзе электрычнасць. Ну, электрычнасць цяпер звычайная справа. Але аўтаматычных паілак Салютэ бачыць не даводзілася. І яшчэ здзіўляла яе тое, што ў новых хлявах будуць пракладзены рэйкі невялікай чыгункі. Па іх пакоцяцца ваганеткі з бітонамі малака. І гной таксама будуць вывозіць ваганеткамі.

Да абеду Салютэ падвозіла корм авечкам, коням, маладняку. Потым яна паварочвала старую «Абжору» да складаў. Тут воз нагружалі мяхамі з аўсом і мукой. Да вячэры збіралася новая куча сечкі, і пачыналася новае падарожжа Салютэ па кароўніках.

Позна ўвечары стомленая «Абжора» звычайна спынялася з апошнім возам ля кароўніка старшай даяркі калгаса Насце. Салютэ спрытна закідвала лейцы каню на спіну і некалькі разоў аббягала вакол воза, нібы хочучы палічыць мяхі. Тады яна здавалася асабліва жвавай і поўнай сілы. Але Насце лёгка чытала яе думкі.

— Не лятай, верабейка,—гаварыла яна, скідваючы мяхі на зямлю. — Як-небудзь я спраўлюся сама...

— Ну і спраўляйся, — пакрыўджана адказвала Салютэ. — Вельмі мне патрэбны твае мяхі...

— Правільна, верабейка. За дзень, мабыць, досыць налякалася.

— А табе што, шкада?

— А ты як думаеш?

Замест адказу Салютэ толькі цяжка ўздыхала. Якая яна нікчэмная ў параўнанні з усімі!.. Яе сяброўка Анеле працуе на птушкаферме. Другая — Вале — цялятніца. Праўда, абедзве яны на цэлы год старэйшыя за Салютэ, але затое яны паспелі паказаць сябе на рабоце, і сама Насце дала ім рэкамендацыю ў камсамол. Кожны ў калгасе нечага ды варты, адна Салютэ для ўсіх толькі верабейка... О, калі-б яна хоць адзін дзень магла пабыць на месцы мамы! Вось, каб трапіць у агародную брыгаду! Яна вырасціла-б горы гароднiны. За гэта ўрад узнагародзіў-бы яе ордэнам. Тады ўсе ведалі-б, што Салютэ марна часу не траціць. Але больш за ўсё да спадобы Салютэ праца даяркі. Яна старалася-б, працавала, вучылася. Яе каровы хутка сталі-б рэкардысткамі. Пра яе, як пра Насце, пісалі-б газеты, а магчыма, нават фатаграфію надрукавалі-б. Тады яна была-б сапраўдным будаўніком комунізма, як дзядзька Гальмінас гаворыць пра дарослых людзей. Яна ўступіла-б у комсамол. І сакратар комсамола — старшая даярка Насце — не глядзела-б на яе, як нянька на дзіця...

Вяртаючыся дадому, Салютэ думала пра новыя хлявы з рэйкамі і ваганеткамі. Гэтыя рэйкі, мабыць, будуць пракладзены да самых адрын... Тады Салютэ развітаецца з «Абжорай». Яна атрымае работу, як і належыць сур'ёзнаму, сталаму чалавеку. А «Абжору» паставяць на такую работу, дзе кляча, нарэшце, наесца ўволю.

Аднойчы раніцай Салютэ разбудзіў страшэнны шум. Яна расплюшчыла вочы і села на ложку. Каля стала стаяла мама і старанна нешта адпрасоўвала. Ружовае праменне ўзыходзячага сонца струменілася праз акно і залівала пакой. Салютэ, здавалася, толькі цяпер убачыла, якая сівая маміна галава і якія глыбокія маршчыны ў яе на твары. Салютэ нават шкада стала маму. Але тут-жа яна сама сябе суцешыла. Вось дурненькая! Мама-ж самы шчаслівы чалавек у калгасе! Пра яе гаворыць увесь раён, а сёння яна разам са старшынёй калгаса Сяменасам паедзе ў Вільнюс на нараду перадавікоў сельскай гаспадаркі.

Салютэ праводзіла-б маму да станцыі, але, як знарок, у Насце таксама аказаліся справы ў горадзе: райком комсамола выклікае яе. А дарога такая, што ні на санях, ні на калёсах не праедзеш: на ўзгорках сонца агаліла зямлю, а ў нізінах яшчэ ляжыць пульхны снег.

Няма для Салютэ месца на санях па такой дарозе...

Досыць аб гэтым... Яна пазяхнула, пацягнулася. Але адкуль-жа гэты страшэнны шум? Салютэ хацела спытаць аб гэтым маму, і раптам сама здагадалася: ды гэта-ж Алукшта рушыла. Вельмі ўжо разбушавалася рэчка, ламаючы свае ледзяныя кайданы. Нездарма дзядзька Мецеюс гаварыў: у гэтым годзе снежная зіма — Алукшта дойдзе да ветрака.

На акне стаялі букецікі ранніх пралесак. Салютэ пяшчотна пагладзіла кветкі. Пралескі напомнілі ёй пра ўчарашні дзень. Вось было весела! Да Салютэ прышлі дзяўчаты і хлопцы,— быў дзень яе нараджэння, — павіншавалі яе, пажадалі шчасця, радасці. Потым усе спявалі, танцавалі, глядзелі ў клубе новы спектакль гуртка самадзейнасці.

Увечары мама абняла Салютэ.

— Шчаслівая ты, дзетка мая, — сказала яна з хваляваннем. — А маё маленства пад кулацкім бізуном прайшло. Ніхто тады і не лічыў, колькі табе гадоў: пайшла ў парабчанкі — вязі, колькі накладуць. І везла. У твае гады мяне і на жніво бралі, і на вывазку гною, і на малатарню...

Салютэ не зусім зразумела, чаму так, але яе ўзрадавалі гэтыя словы мамы. Уночы яна кепска спала, некалькі разоў прачыналася: яе здзіўляла і непакоіла думка, што ёй ідзе ўжо шаснаццаты год і што мама ў такім узросце павінна была рабіць самую цяжкую работу...

Цяпер, гледзячы на пралескі, яна ўспомніла і цётку Матыльду. Яна таксама прыходзіла павіншаваць Салютэ з днём нараджэння. Рэдка бываюць такія людзі, як цётка Матыльда. Яна ніколі не задзірае носа. Цётка Матыльда гута-

рыць з Салютэ, як роўная з роўнай, раіцца з ёй, уважліва выслухоўвае яе меркаванні. Часам Салютэ дапамагае ёй падаіць кароў. Цётка ёй і растлумачыць, і пахваліць, і ніколі не называе верабейкам. Хутка яна паедзе ў заатэхнічную школу... Ой, як стала сумна, калі прышла гэтая вестка! У Салютэ нават цяпер выступілі слёзы. «Я зусім дурненькая, — падумала яна, скокнуўшы з ложка. — Цётка-ж сама вельмі рада».

Салютэ крыкнула маме «добрай раніцы» і пачала апранацца.

Ёй было вельмі весела — і яна, і цётка Матыльда будуць шчаслівыя. Але цяпер трэба было спяшацца да старшыні... Ён яшчэ не ведае, што Салютэ пайшоў шаснаццаты год.

Старшыня Сяменас агледзеў Салютэ з галавы да ног. Яна непрыкметна ўзнялася на дыбачкі і ўсміхнулася. Сяменас прадаўжаў маўчаць, і яго здзіўлены позірк усё яшчэ мераў яе кволую, тонкую постаць.

— На месца цёткі Матыльды! — нарэшце, уздыхнуў ён. — Бач ты якая!

Салютэ не зразумела, чаго хоча старшыня: пахваліць яе ці кінуць дакор. Але ад гэтых слоў у Салютэ стала лёгка на сэрцы. Яна адразу зноў расхрабрылася і, стараючыся стаць яшчэ вышэй, сказала:

— Час брацца за працу! Паганяць «Абжору» можа кожны хлапчук!

Сяменас раптам весела і гучна засмяяўся. У гэты час у пакой зайшлі загадчык жывёлагадоўчых фермаў Гальмінас і Насце.

— Вы толькі паглядзіце! — звярнуўся да іх Сяменас. — У нас будзе новая даярка... — Ён паказаў рукою на Салютэ і зноў засмяяўся.

У Салютэ перахапіла дыханне. Яна адчула, што старшыня адмаўляе ёй, і, спяшаючыся папярэдзіць памылку, якая вось зараз будзе зроблена, Салютэ ўсклікнула:

— Учора быў мой дзень нараджэння! Мне шаснаццаты!

Ніхто не адказаў.

Гэта яшчэ больш яе спалохала. Яна не магла сказаць ні слова. Крадком Салютэ на імгненне зірнула на Насце, на твары якой блукала пагардлівая ўсмешка. Яна нібы гаварыла: «Вось дык начырыкаў варабейка!»

Салютэ зразумела, што, калі яна зараз не знойдзе слоў, якія-б пераканалі гэтых людзей, то яе справа зусім дрэнь. Яна сабрала ўсе свае сілы і падышла да Гальмінаса. Мама Салютэ — комуністка. І цётка Матыльда — комуністка. Яны комуністкі і, значыць, разумеюць людзей, чулыя да іх. А дзядзька Гальмінас — той сакратар. Ён кіруе ўсімі комуністамі калгаса. Ён павінен зразумець Салютэ.

— Дзядзька Гальмінас... — пачала яна, спяшаючыся. — Вы толькі падумайце... Так я ніколі... Так мне... — Яна захліпнулася і расплакалася-б, калі-б не паўтарыла таго, што павінна было ўсіх пераканаць:

— Мне ўжо шаснаццаты!

— Дзяўчынка, — перапыніў Салютэ голас Насце, — хіба год году роўны? — Насце, нібы чакаючы пацвярджання сваіх слоў, замоўкла і запытальна паглядзела на старшыню і загадчыка. Яны з адабрэннем кіўнулі галовамі. — Табе, мілая, патрэбна яшчэ падужэць, падрасці... Ты слабенькая.

— Так, абавязкова трэба падрасці, — пацвердзіў старшыня.

Гальмінас ласкава ўсміхнуўся і сказаў Салютэ:

— Пачакай крыху. Работа даяркі нялёгкая, яна патрабуе сілы і ўмення.

Салютэ хацела сказаць, што мама ў такім узросце ўжо рабіла ўсякую цяжкую работу, а Салютэ дапамагае цётцы Матыльдзе даіць кароў, і тая яе заўсёды хваліць. Але старшыня ўжо зняў з рычага тэлефонную трубку, а Гальмінас штосьці чытаў у раскрытай на стале папцы.

— Правільна сказала Насце. Трэба падрасці, — паўтарыў старшыня, павярнуўшыся да Салютэ, і ўзняў руку над яе галавой, нібы жадаючы паказаць, на колькі яна павінна падрасці, каб заняць месца даяркі.

Усё было скончана.

Салютэ перавяла на Насце гнеўны позірк.

— Добра!.. — пагразіла яна кулаком. — Добра! Думаеце, што такія разумныя і такія дужыя на свеце толькі вы адны? Ну і добра! Але мы яшчэ па-га-во-рым!

Усе здзіўлена пераглянуліся. Не сказаўшы больш ні слова, Салютэ выйшла з пакоя.

Ужо надыходзіў вечар, калі Салютэ з апошнім возам фуражу спынілася каля кароўнікаў.



Яна сярдзіта нахмурылася — зараз павінна была выйсці Насце. Але Насце не было. Салютэ зайшла ў хлеў і крыкнула:

— Воз разгружаць трэба!

Ніхто не азваўся.

— Ага! — узрадавалася Салютэ. — Яшчэ не з'явілася. Пачакаем. Праўда, «Абжора»? — яна падыйшла да каня і падкінула яму ахапак канюшыны.

Салютэ вярнулася ў хлеў. Яна ішла ад каровы да каровы, гладзіла іх, аглядала з усіх бакоў. Яна нібы шукала нечага, чым магла ўкалоць Насце, пасмяяцца з яе. Салютэ ўвесь дзень думала, чым-бы насаліць старшай даярцы, ды нічога вартага так і не прыдумала. Больш за ўсё яна спадзявалася на тое, што хутка што-небудзь здарыцца незвычайнае! Магчыма, цётка Матыльда надоіць больш малака, чым Насце, і гэта саб'е Насце гонар. Але



цётка хутка паедзе, а без яе ніхто іншы не зможа прыструніць Насце...

Гадзіннік у кароўніку паказваў без чвэрткі дзевяць. У дзевяць пачынаецца даенне, а Насце ўсё яшчэ няма.

— Да воза пальцам не дакрануся, — вырашыла Салютэ. — Толькі выпрагу «Абжору», а мяшкі няхай хоць да раніцы ляжаць.

У кутку хлява стаялі накрытыя брызентам бітоны і вёдры. Салютэ, паклаўшы на бок бітон, прысела на яго і пачала думаць пра маці. Мама цяпер далёка ад дому. Цягнік вязе яе праз лясы, міма вёсак і гарадоў у Вільнюс. Яна сядзіць у вагоне і думае, што скажа на з'ездзе. А Насце ўжо бяжыць у кароўнік і таксама думае: не спазніцца-б толькі! Хвалюецца... Добра, няхай хвалюецца... Дзядзька Гальмінас цяпер, мабыць, у конюха Лелятуса. Кажуць, там лепшая пародзістая кабыла калгаса сёння прывядзе жарабя. Дзядзька Гальмінас думае пра тое, што неўзабаве ў калгасе будзе на аднаго каня больш. А можа, успамінае Салютэ. Успамінае і думае: дзівакаваты верабейка — у даяркі надумалася... Эх, кожны пра што-небудзь думае...

Салютэ страпянулася: гадзіннік на сцяне прабіў дзевяць.

Яна выбегла з хлява. Месяц падняўся ўжо над зямлёй. Было светла, нібы днём. У вячэрняй цішы паводкай шумела Алукшта.

Куды-ж, урэшце, прапала Насце? Учора яна сама прабірала даярку Анелю. А тая і спазнілася ўсяго на якія пяць мінут. З-за пяці мінут Насце прачытала даяркам цэлую лекцыю аб шкодзе спазнення. І як дзядзька Гальмінас яе падтрымаў!..

А дзе тут каровам Анелі раўняцца з насценымі. Гэтыя ўсе рэкардысткі. А карову «Війокле» ведае ўся рэспубліка. Можа з-за яе, Насце, і ўвесь калгас праславіўся. Салютэ радавалася, што на сельскагаспадарчай выстаўцы Насце атрымала першую прэмію. Як не радавацца, калі іншыя пра «Війокле» ведаюць толькі з газет, а Салютэ кожны дзень яе жывую бачыць, гладзіць і корм ёй прывозіць...

Салютэ зноў вярнулася ў хлеў. «Війокле», якую Насце заўсёды даіла першай, неспакойна азіралася. Дзяўчынка падышла да каровы, пачасала яе паміж рог. «Війокле» ўдзячна лізнула ёй руку.

— Зараз прыдзе гаспадыня, — супакойвала яе Салютэ, але сама гарэла нецярпеннем. — За гэта яе дзядзька Гальмінас не пахваліць, ой, не пахваліць!

І раптам ёй у галаву прышла нечаканая думка. Ну, так! Насце магла затрымацца ў райкоме камсамола. За дзень дарога зусім сапсавалася, і Насце, відаць, прышлося пайсці пешшу. Яна толькі да поўначы дабярэцца да калгаса... Трэба бегчы да дзядзькі Гальмінаса!

Салютэ ўскочыла. Але ў варотах у яе ўзнікла іншая думка. А дзе ён цяпер? У конюхаў? Да канюшні і назад будзеш бегчы добрыя поўгадзіны. А калі ён у кароўніку цёткі Матыльды? А можа яго і там няма? Так яна, хто ведае, колькі прабегае...

Салютэ акінула позіркам рады кароў. Потым глянула на брызент, пад якім стаялі пустыя бітоны. Салютэ прыклала руку да грудзей, нібы жадаючы стрымаць моцнае біццё сэрца, і рашуча рушыла ўперад.

... Яна вельмі спяшалася. Мінутная стрэлка нястрымна ішла ўперад. Прайшла мінута, дзве, пяць. Спрытныя кулачкі Салютэ працавалі ўсё хутчэй і хутчэй. Струмені малака цяклі ў вядро, вясёлым шумам гучалі ў вушах маленькага возчыка фуражу. Яна бачыла, як у вядры ўсё вышэй узнімаецца белая пена, і яшчэ хутчэй працавала. О, як у гэтую хвіліну яна была ўдзячна цётцы Матыльдзе! Але час не чакаў. Ён нібы ўсё хутчэй адлічваў мінуту за мінутай. І калі Салютэ скончыла даіць «Війокле», гадзіннік паказваў, што Салютэ позніцца. З яшчэ большым спазненнем закончыла даіць трэцюю карову. Дарэмна яна спрабавала нагнаць час: калі закончыла даіць восьмую карову, рукі адмовіліся служыць. Пальцы здранцвелі. У галаве кружылася. Яна зірнула на гадзіннік. Палова адзінаццатай. Насце канчала даенне ў адзінаццаць. У яе засталося толькі поўгадзіны, а чатыры каровы яшчэ не падоены.

Стараючыся перамагчы стомленасць, Салютэ пачала думаць пра маму. Вось яна неўзабаве будзе ў Вільнюсе. Яна ўсім раскажа, як яе брыгада змагалася са спёкай. А як цяжка было тады маме! Спякота і тля маглі знішчыць гародніну. Мама з дзяўчатамі сваёй брыгады вазіла на агароды ваду. Пад раніцу яна вярталася ўся пачарнелая і, знясіленая, падала на ложак. Потым уставала і зноў ішла на агароды. Мама — напорысты чалавек. Яна абараніла гародніну ад спёкі.

Ой, як баляць пальцы...

Калі Салютэ закончыла даіць апошнюю карову, яна хацела паглядзець на гадзіннік, але не змагла паварушыцца. Сонная цеплыня разлілася па ўсім яе целе. Было прыемна проста сядзець, паклаўшы рукі на край вядра, і ні аб чым не думаць...

Салютэ прыслухалася: нехта з крыкам набліжаўся да кароўніка. Хутка можна было адрозніць галасы людзей.

— Як сказаў дзядзька Мацеюс, так і здарылася, — гаварыла ўголас жанчына. — Разлілася Алукшта да самых узгоркаў.

— Значыць, так... — соннаківала галавой Салютэ. — Значыць, Насце не вінавата...

Ва ўяўленні Салютэ паўстала размоклая дарога, калёсы, а за імі брыдзе па гразі Насце. Яна спяшаецца, падганяе каня. Калёсы марудна спускаюцца ў роў, а там шуміць ледзяная плынь. Спалоханая Насце паварочвае каня. Насце спяшаецца да тэлефона і паведамляе ў калгас, што Алукшта разлілася да млына, і дарогай ні праехаць, ні прайсці.

— Хутчэй! Хутчэй! — пачуўся ў дзвярах нецярплівы голас Гальмінаса.

У хлеў убеглі дзяўчаты з вёдрамі ў руках.

— Пачынайце падрад! — загадаў Гальмінас.

Раптам ён аслупянеў: каля дзвярэй стаялі поўныя бітоны малака... І Гальмінас паглядзеў наўкола. Салютэ стомлена ўсміхнулася яму, скідаючы з сябе сон.

— Значыць, новыя абавязкі пачала выконваць, — сказаў сакратар, шчыра ўсміхаючыся.

Салютэ не варушылася, гледзячы на Гальмінаса.

— Падаіла? — затаіўшы дыханне, Гальмінас чакаў адказу.

Салютэ хацела падняцца, але адна думка спалохала яе. Яна вінавата апусціла вочы і прашаптала:

— Вы не злуйцеся... Я крыху спазнілася...

Яна ўздыхнула і, нібы баючыся, што пачуюць дзяўчаты, якія стаялі за спіной Гальмінаса, яшчэ цішэй дадала:

— Як вы думаеце? Ім гэта, мабыць, пашкодзіць... Але я... я не паспела...

Гальмінас узяў Салютэ падпахі і падняў з табурэткі. Яна яшчэ ўсё глядзела на сакратара вялікімі вачыма, якія нічога не разумелі. Тады ён абняў яе, пацалаваў у лоб і ўсхваляваным голасам сказаў:

— Гэта ад мяне. Насце цябе асобна падзякуе.

— Насце не вінавата. Рака разлілася.

— Час, час табе ў камсамол, — прадаўжаў сакратар. — Час...

Радасны, урачысты тон Гальмінаса канчаткова разбудзіў Салютэ. Яна падняла галаву і, нібы не верачы ўсяму, што адбылося, паглядзела на дзяўчат доўгім позіркам. Тыя адказалі ёй удзячнай, падбадзёрваючай усмешкай.

А сакратар, як-бы даючы адказ на думкі Салютэ, працягваў спакойным голасам:

— Дарагі чалавек, які правільна разумее жыццё. Сёння ён, магчыма, робіць першы крок. Гэты крок для многіх непрыкметны. Але калі чалавек выбраў правільны шлях, то прыдзе час і для яго геройства і славы. Пойдзем, даярачка!

Яны выйшлі на вуліцу. Дзьмуў вецер. Ярка свяціў месяц. Нібы гарачае вуголле, гарэлі ў бясконцай прасторы зоркі. Аднекуль даносілася далёкая песня, гукі баяна. Чуўся смех, перагукаліся галасы. І па-ранейшаму шумела разводдзем неўгамонная Алукшта.

Пераклад з літоўскай мовы.

# Лепшы ў свеце

**Роўна ў шэсць гадзін раніцы разам з боем маскоўскіх курантаў адчыняюцца дзверы наземных вестыбюляў станцый Маскоўскага метрапалітэна. Пад шумлівымі магістралямі і плошчамі сталіцы з хуткасцю экспрэсаў імчацца паязды электрычнай падземнай дарогі. За некалькі хвілін яны дастаўляюць пасажыраў з аднаго раёна сталіцы ў другі, нават аддалены на дзесяткі кіламетраў.**

**Дваццаць год назад, 15 мая 1935 года, адбылося адкрыццё першай чаргі метро. Падземная дарога звязала тады Цэнтральны парк культуры і адпачынку імя Горкага з Сакольнікамі і Ахотны рад са Смаленскай плошчай. На трасе першай чаргі было пабудавана 13 станцый.**

**З кожным годам расла і пашыралася сетка падземных дарог. Будаўніцтва метрапалітэна не спынялася нават у суровыя гады Айчыннай вайны. Усё бліжэй і бліжэй да ўскраін вялікага горада падыходзілі паязды. Яны звязалі з цэнтрам рабочыя пасёлкі Аўтазавода імя Сталіна, электралямпавага завода, аддалены раён Ізмайлава, Сокал. Найлепшы від сувязі атрымаў і буйнейшы ў краіне стадыён «Дынамо».**

**Летась калектыў будаўнікоў метро адзначаў новую перамогу. Была ўведзена ў строй самая найбольшая магістраль — Вялікае кальцо.**

**Траса Вялікага кальца перасякае 17 з 25 раёнаў сталіцы, праходзіць пад самымі ажыўленымі вуліцамі і буйнейшымі плошчамі, звязвае 7 вакзалаў. На Вялікім кальцы пабудавана 12 станцый. Ні адна з іх не з'яўляецца канечнай. На любую станцыю можна праехаць незалежна ад таго, у які бок паедзе пасажыр: паязды рухаюцца па замкнутаму колу.**

**З вялікага кальца лёгка трапіць на любы з старых радыусаў метрапалітэна — Пакроўскі, Горкаўскі, Сталінскі. Перасадачнымі з'яўляюцца ўсе станцыі, якія пабудаваны на Беларускім, Кіеўскім, Павялецкім, Курскім, Камсамольскім вакзалах, на вакзале ля Цэнтральнага парка культуры і адпачынку імя Горкага. Працяглась Вялікага кальца — дваццаць кіламетраў. Адлегласць гэтую паязды праходзяць за трыццаць хвілін.**

**Насупраць манументальнага помніка М. Горкаму, які ўзвышаецца на плошчы Беларускага вакзала, размешчан наземны вестыбюль станцыі метро «Беларуская — кальцавая». Падземны вестыбюль гэтай станцыі аформлены ў беларускім народным стылі. Скляпенні залы ўпрыгожваюць 12 вялікіх каляровых мазаічных пано, якія расказваюць аб поспехах і дасягненнях народнай гаспадаркі Беларусі, аб гераічнай барацьбе беларускіх партызан. З гэтай залы можна прайсці на любую станцыю Вялікага кальца, а па ўнутранаму пераходу перайсці на Горкаўскі радыус.**

**Савецкія будаўнікі здолелі надаць падземным памяшканням метро выгляд палацаў, якія радуюць вока багаццем архітэктурнага аздаблення. У гэтых палацах шмат прасторы, паветра, святла. Дзесяткі вестыбюляў ёсць у метрапалітэне, і кожны з іх непаўторны ў сваёй прыгажосці. Тут зроблена ўсё, каб стварыць найлепшыя ўмовы для пасажыраў.**

**У гэтыя дні пад вуліцамі і плошчамі сталіцы працягваюць сваю працу праходчыкі метрапалітэна. Яны пракладваюць новыя магістралі да раёнаў Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі і Ленінскіх гор. Пятая чарга метрапалітэна сёння ўжо не мара, не праект, а жывая справа. Дзве новыя трасы метро — Фрунзенскі і Шчарбакоўскі радыусы — створаць выдатныя ўмовы для студэнтаў МДУ і экскурсантаў сельскагаспадарчай выстаўкі, тысяч масквічоў, якія жывуць у гэтых раёнах. Дзесяць станцый будзе пабудавана на гэтых трасах.**

**Хуткімі тэмпамі пракладваюцца пераходныя тунелі, якія звяжуць ужо дзеючую станцыю «Батанічны сад» са станцыяй «Рыжская». Увесь першы ўчастак Фрунзенскага радыуса павінен быць гатовы да 1 мая 1957 года. Гэта вельмі кароткі тэрмін, але будаўнікі метро цвёрда перакананы, што яны, як і раней, з чэсцю выканаюць гэтую ганаровую задачу. Радзіма забяспечыла пракладчыкаў новых магістралей магутнай тэхнікай, якая намнога павялічыла прадукцыйнасць іх працы. За дваццаць год, якія мінулі з таго незабыўнага дня, калі па стальных рэйках, глыбока пракладзеных пад вуліцамі і плошчамі сталіцы, прайшлі першыя электрапаязды, працягласць метрапалітэна ўзрасла да 60 кіламетраў. Амаль два з палавінай мільёна чалавек штодзённа карыстаюцца паслугамі метро.**

**З законным гонарам адзначаюць савецкія людзі дваццацігоддзе Маскоўскага метрапалітэна — лепшага ў свеце. Ён — выдатнае дасягненне нашага народа, яго тэхнікі, архітэктуры, мастацтва.**

**Р. СЯМЁНАЎ.**



# ТРАКТАРЫ ІДУЦЬ

**П. БУЙМАЎ,**

**інжынер-канструктар.**

На гэтае пытанне можна адказаць, расказаўшы пра тых, хто робіць трактар.

Кожны трактар «Беларусь», які сходзіць з канвеера, — гэта вынік працы шматтысячнага калектыву, і кожны рабочы завода, бачачы крупінку сваёй працы ў гатовай машыне, з гонарам гаворыць: «Я рабіў гэты трактар». Але рабіць нагул трактар — гэта адно, а рабіць іх многа, рабіць іх звыш плана — гэта ўжо зусім іншае. Тут, акрамя простага выканання аперацый, патрэбна шмат творчасці, шмат кемлівасці і вынаходніцтва. Тут пачынаецца ўжо сапраўдная рамантыка, пафас працы.

Рабіць такую машыну, як трактар «Беларусь», вельмі цяжка. Высокая дакладнасць апрацоўкі дэталей патрабуе асаблівай стараннасці і майстэрства. Усё гэта робяць звычайныя нашы людзі.

Шматтысячны калектыў завода ў асноўным складаецца з юнакоў і дзяўчат, якія прышлі на завод проста з-за школьнай парты або з радоў Савецкай Арміі. Не адразу, вядома, яны сталі кваліфікаванымі рабочымі. Але прайшоў некаторы час, і хлопец або дзяўчына, якія раней са страхам уваходзілі ў цэх, ужо смела працуюць ля станка.

Мы ў сталеліцейным цэху. Яшчэ пры ўваходзе ў цэх кідаецца ў вочы плакат: «Прывітанне брыгадзе сталявара Радзюкевіча, якая дала пяць скорасных плавак за змену».

Брыгадзір, як і ўся яго брыгада, яшчэ зусім нядаўна прышоў на завод, а зараз гэта ўжо сталявар з заслужанай працоўнай славаю.

**Годны ў строй!**
**Георгі Стэльмах закончыў абкатку чарговай машыны.**

Машына часам старэе проста на паперы ў канструктарскім бюро, а часам жыве вельмі доўга, шмат год прыносячы людзям палёгку ў працы. Стваральнікі машыны — канструктары, выпускаючы машыну, павінны прадбачыць яе будучае на многа год наперад, а стварыўшы машыну, не заспакойвацца на дасягнутым, а ўдасканальваць яе і паляпшаць. Пачуццё незадаволенасці заўсёды ўласціва ўсім людзям, якія жывуць творчым жыццём.

З такім пачуццём працуюць зараз канструктары Мінскага трактарнага завода — стваральнікі трактара «Беларусь». У лабараторыях, у палявых выпрабавальных атрадах трактар выпрабоўваецца і паляпшаецца. З кожным днём ён становіцца ўсё лепшым і лепшым. Трактар, выпушчаны ў 1956 годзе, будзе адрознівацца ад трактара, выпушчанага ў гэтым годзе. Пройдзе некалькі год — і трактар «Беларусь» будзе вельмі мала падобны на першы, створаны ў якасці вопытнага ўзору.

Для вырабу трактара «Беларусь» прымяняецца вялікая колькасць матэрыялаў, ад ваты да вальфрама. Усе яны паступаюць на Мінскі трактарны завод у выглядзе сыравіны, поўфабрыкатаў і гатовых дэталей.

У грукаце молатаў кавальскага цэха, у асляпляльным святле расплаўленага металу нараджаюцца правобразы будучых дэталей трактара — загатоўкі. Потым яны паступаюць у механічныя цэхі, дзе з іх робяць гатовыя дэталі, з якіх збіраюцца асобныя вузлы трактара.

На галоўным канвееры з вузлоў збіраецца ўжо сам трактар. Гатовы трактар праходзіць абкатку, а потым ідзе на шырокі прастор социялістычных палёў. Здаецца, усё проста і ясна.

Але дзе-ж тая рамантыка, дзе той пафас працы, пра якія мы шмат чытаем у газетах? — могуць спытаць у мяне.





На здымках справа: **у сталеліцейным і зборачным цэхах.**

У цэху, дзе апрацоўваецца і збіраецца сэрца трактара — рухавік, на ўчастку апрацоўкі блокаў — нашу ўвагу прыцягнуў малады хлопец, які хутка і ўмела працаваў ля многашпіндзельных свідравальных станкоў. Знаёмімся.

Каліна Аляксандр. У мінулым годзе закончыў дзесяць класаў і пайшоў на завод. Працуючы, юнак прадаўжае вучыцца. Каліна заўсёды перавыконвае план. Такіх рабочых, як Аляксандр Каліна, на заводзе вельмі многа. Вячэрнія школы рабочай моладзі наведвае больш тысячы чалавек, вячэрні тэхнікум і вячэрні інстытут — больш пяцісот чалавек. На заводзе існуюць курсы майстроў, курсы павышэння кваліфікацыі. Моладзь настойліва авалодвае ведамі. Гэта вельмі характэрная рыса сучаснай моладзі з рабочага класа нашай краіны.

Па канвееру бесперапынна рухаюцца маторы. На ўчастку апрацоўкі блокаў, дзе мы пазнаёміліся з свідравальшчыкам Калінай, на канвеер ставіцца блок дызеля. Паступова абрастаючы дэталямі, к канцу канвеера ён ператвараецца ў гатовы матор. Работа зборшчыка рухавіка патрабуе высокай кваліфікацыі. Але і тут, на канвееры зборкі самага дакладнага вузла трактара, адразу кідаецца ў вочы тое, што разам са старымі зборшчыкамі працуе шмат моладзі. У змене майстра Сяргея Яўсцюхіна побач са старым рабочым тав. Кастраміным працуе малады зборшчык Зігмантовіч. Пра яго майстар не без гонару гаворыць:



**Канвеерная зборка матораў. Майстар Сяргей Яўсцюхін** (крайні злева) **дае заданне зборшчыкам Анатолю Зігмантовічу і Уладзіміру Кастраміну.**



**Камсамолец-шліфоўшчык Эдуард Жывіцкі за вырабам дэталей трактара.**

— Праграму мінулага месяца закончылі на тры дні раней тэрміну.

На заводзе многімі ўчасткамі кіруюць маладыя майстры. Старшы майстар участка трактарнага цэха камсамолец Мікалай Якубчык, прыняўшы адстаючы ўчастак, за кароткі тэрмін вывеў яго ў перадавыя.

На эстакадзе адбываецца абкатка трактара і здача яго для работы ў сельскай гаспадарцы. Работа абкатчыка патрабуе вялікага навыку і кваліфікацыі. Ён дае канчатковае заключэнне аб прыгоднасці трактара, на яго сумленне кладуцца ўсе непаладкі, выяўленыя потым, пры эксплуатацыі. Першым, каго мы сустрэлі на эстакадзе, быў абкатчык Георгі Стэльмах. Ён толькі што прывёў трактар з абкаткі.

— Скажыце, таварыш Стэльмах, часта вам даводзіцца вяртаць трактары ў цэх з-за няспраўнасцей?

— Зараз вельмі рэдка, раней часцей даводзілася.

Мы падыйшлі да чарговага трактара, які толькі сыйшоў з канвеера. Сядаючы за руль машыны, Георгі з усмешкай гаворыць:

— Адчуваю, што не падвядзе. — Махнуў нам рукою і паехаў. Да тысяч выпушчаных прыбавіўся яшчэ адзін трактар «Беларусь».

Так робяць трактар «Беларусь». Робяць яго маладыя і пажылыя рабочыя Мінскага трактарнага завода, робяць яго натхнёна і радасна, павышаючы прадукцыйнасць працы, зніжаючы сабекошт і паляпшаючы якасць. Тэмпы выпуску трактараў павышаюцца штодзённа. У гэтыме заслуга ўсяго калектыву завода і асабліва моладзі.



**Многа тысяч трактараў «Беларусь» працуе на палях нашай Радзімы і за яе межамі, але канструктары не спыняюць работы над удасканаленнем машыны. У спецыяльна створаным эксперыментальным цэху і на палях праводзяцца выпрабаванні новых прыстасаванняў, вывучаюцца асаблівасці работы трактара ў розных умовах. Бесперапынна ўдасканальваецца тэхналогія вытворчасці.**

Фота А. Дзітлава.

# ІМЕНІ ЛАМАНОСАВА

«Сябры, люблю я Ленінскія горы...»

Палюбілася савецкаму чалавеку шырокая і натхнёная мелодыя гэтай песні. І няхай ты ніколі не быў у сталіцы, а славутыя Ленінскія горы бачыў толькі на малюнку, усёроўна песня захопіць цябе, а перад вачыма паўстане вобраз нашай цудоўнай Масквы.

Ленінскія горы (у мінулым Вераб'ёвы горы) займаюць даволі значнае месца ў гісторыі Масквы. У 1612 годзе ля Вераб'ёвых гор народнае апалчэнне пад кіраўніцтвам Мініна і Пажарскага ўшчэнт разбіла польска-літоўскіх інтэрвентаў, а роўна праз 200 год адсюль бегла войска Банапарта. На Вераб'ёвых горах Герцэн і Агароў «присягнули, в виду всей Москвы, пожертвовать нашей жизнью на избранную нами борьбу»...

Раней глядзелі з Ленінскіх гор на Маскву. Цяпер глядзяць на Ленінскія горы з Масквы. Творчай працай савецкіх людзей тут узведзены новыя будынкі Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта.

Маскоўскі дзяржаўны універсітэт існуе дзвесце год. Заснаваны вялікім Ламаносавым, універсітэт на працягу ўсёй сваёй гісторыі быў цэнтрам перадавой рускай думкі. Тут навучалася слаўная кагорта барацьбітоў за прагрэс рускай навукі. З яго сцен выйшлі Сталетаў і Лебедзеў, Сечанаў і Ціміразеў, Герцэн, Белінскі, Грыбаедаў, Лермантаў, Чэхаў і шмат іншых выдатных вучоных, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячоў. У змрочныя гады рэакцыі, калі царскі ўрад імкнуўся ўсяляк абмежаваць дзейнасць універсітэта, зацiснуць яго навуковую і даследчую працу у цесныя рамкі афіцыйных прадпісанняў, Маскоўскі універсітэт заўсёды заставаўся верным ламаносаўскім традыцыям, быў светачам ведаў і прагрэсу, апраўдваючы назву «рэволюцыйнага», якую даў яму вялікі Ленін.

Завяршэнне будаўніцтва на Ленінскіх горах з'явілася гістарычным этапам у жыцці Маскоўскага універсітэта. Перш за ўсё гэта дало магчымасць значна павялічыць кантынгент студэнтаў. Цяпер ва універсітэце навучаецца 13 тысяч студэнтаў, а калі ўключыць завочнае аддзяленне — 18 тысяч. Сярод студэнтаў прадстаўнікі 59 нацыянальнасцей. У Маскоўскім універсітэце вучыцца нямала і выпускнікоў беларускіх школ.

Прафесары, аспіранты, студэнты атрымалі навейшае вучэбна-навуковае абсталяванне. Палярызацыйныя мікраскопы і спектрографы, якія дазваляюць праводзіць усебаковае аптычнае даследаванне горных парод, сейсмастанцыі і універсальныя выпрабавальныя машыны, радыёвымяральная апаратура і печы, якія даюць велізарныя тэмпературы, вылічальныя машыны, якія ў мільёны разоў паскараюць рашэнне навуковых задач, — ці-ж пералічыш усё тое, што маюць лабараторыі! Такая сапраўды магутная эксперыментальная база дазваляе звязаць у адно цэлае вучэбную і даследчую працу.

Ва універсітэце створаны выдатныя магчымасці для плённай вучобы і навуковай працы студэнтаў, аспірантаў, вучоных. Кожнаму студэнту тут выдзелены асобны пакой.

Наш Палац! З гонарам вымаўляюць гэтыя словы і студэнт-масквіч, і студэнт-кітаец, і студэнт-паляк, і студэнт-румын. З гонарам гаворыць гэтыя словы і беларус Раман Піута — студэнт геаграфічнага факультэта, высокі, стройны юнак.

— У нашым палацы ўмовы для вучобы і жыцця проста цудоўныя, — гаворыць Піута і паказвае рукой навокал. — Глядзіце самі. Даўней казалі пра жыццё студэнцкае, што яно самае што ні на ёсць дрэннае жыццё. Ці-ж скажаш гэта пра нас?

Раман Піута падыходзіць да акна і задумліва пазірае ўніз. Там, сярод маладых дрэў студэнцкага парка, якія адсюль, з вышыні шаснаццатага паверху, здаюцца зусім маленькімі, узвышаецца помнік Ламаносаву. На твары юнака адбітак задуменнасці. Магчыма, прыгадаў ён крылатыя словы вялікага рускага вучонага аб будучай славе рускай навукі, можа, падумаў аб яе магутным поступе ў нашу савецкую эпоху.

**А. САВІЦКІ.**

# НОВЫЯ КНІГІ

## ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

Прачытаўшы зборнік апавяданняў Міколы Ваданосава,* вы не можаце заставацца роўнадушнымі да яго твораў. Аўтар разумее выхаваўчае значэнне нашай літаратуры для дзяцей. Кожнае яго невялічкае апавяданне мае пэўную мараль, якая выхоўвае ў школьніка тыя рысы, што робяць яго свядомым удзельнікам будаўніцтва новага, соцыялістычнага грамадства. Дарослыя ў яго апавяданнях мала павучаюць дзяцей, асноўная нагрузка ў выпрацоўцы характару савецкага школьніка кладзецца на дзіцячы калектыў, які нядрэнна спраўляецца са сваёй задачай.

Асноўная тэма, якая праходзіць амаль праз усе творы пісьменніка, гэта тэма дружбы паміж дзецьмі. Сябра той, хто разумее чалавека ў цяжкія хвіліны жыцця і дапамагае яму («Твой сябра»). Дзеці павінны вучыцца на вопыце сваіх старэйшых. Ім нельга забываць, што іх шчасце здабывалася бацькамі ў цяжкіх выпрабаваннях («Цікавая знаходка») і што наперадзе іх чакае вялікае жыццё, да якога яны павінны рыхтавацца («Сапраўдны радыст»). Тэматыка першага зборніка рознастайная, і яго выхаваўчы кірунак правільны. Усё гэта гаворыць аб літаратурных здольнасцях аўтара. Але хацелася-б, каб малады пісьменнік не спыняўся на дасягнутым.

У апавяданнях М. Ваданосава ёсць разрыў у паказе вобразаў дзяцей і дарослых. Калі дзіцячы калектыў ён паказвае больш ажыўлена, знаходзячы пэўныя мастацкія фарбы, дык дарослых падае некалькі схематычна. Ні выкладчык матэматыкі Мар'я Уладзіміраўна («Першае знаёмства»), ні партызан Алесь Субач («Цікавая знаходка»), ні радыёаматар Мікалай Пятровіч («Сапраўдны радыст») не застаюцца ў нашай памяці. Даўшы ім практычнае прызначэнне ў апавяданні, аўтар не паклапаціўся аб выяўленні іх індывідуальных рысаў.

Расстаноўка дзіцячых вобразаў у апавяданнях таксама некалькі аднастайная. Добры хлопчык заўсёды сутыкаецца з дрэнным, ці добры сябруе з дрэнным, а потым яны разыходзяцца. Як быццам-бы добрыя, прыкладныя хлопчыкі не могуць сябраваць паміж сабой.

Слабая абрысоўка некаторых вобразаў у апавяданнях маладога пісьменніка ідзе ад таго, што ён, з прычыны сваёй нявопытнасці, не заўсёды знаходзіць сваёй думцы тыповае мастацкае ўвасабленне, часам слаба валодае мастацкай формай апавядання.

Уменне будаваць сюжэт даецца практыкай. М. Ваданосаў заўсёды адштурхоўваецца ад канкрэтнага факта, таму з пункту гледжання жыццёвай праўды яго апавяданні не выклікаюць пярэчання. Але разам з тым нельга забываць і законаў пабудовы сюжэта. Так, напрыклад, у апавяданні «Твой сябра» школьнік Алесь сябраваў з Валодзем, а потым напісаў пра яго допіс у насценгазету. Пісьменнік павінен быў абгрунтаваць псіхалагічна гэты крок свайго героя, даведзці, што інакш ён зрабіць не мог. Тады-б мастацкая выразнасць апавядання была значна большай, таму што чытач глыбей зразумеў-бы перажыванні і Алеся і Валодзі.

М. Ваданосаў піша коратка, лаканічна, нядрэнна валодае дыялагам. Але ў сваіх апавяданнях ён не выкарыстоўвае ўсе сродкі мастацкага выяўлення. Так, партрэт і пейзаж чамусьці зусім мала сустракаюцца ў яго творах. Для перадачы рыс характару чалавека і яго настрою гэтыя мастацкія сродкі маглі-б адыграць вялікую ролю.

Некалькі слоў варта сказаць і аб мастацкім афармленні кнігі. Вокладка мастака В. Басава надзвычай статычная. Не лепшыя і малюнкі Ю. Пучынскага. На многіх ілюстрацыях цяжка разгледзець выраз твару. Да таго-ж твары дзяцей падобны адзін на другі.

**А. ЕСАКОЎ.**

---

* Мікола Ваданосаў. «Першае знаёмства». Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Рэдакцыя дзіцячай літаратуры, Мінск, 1954.

# ПОЎДНЁВЫ ГОСЦЬ

— А тут табе пісьмо нейкае тэрміновае, — такімі словамі сустрэў дырэктар соўгаса Пётр Міхайлавіч Таклёнак агранома і працягнуў яму канверт. Навум Мельнік узяў яго, хуценька разарваў канверт і ўпіўся вачыма ў аркушык паперы. Па меры таго, як ён чытаў, твар яго асвятляўся ўсмешкай, у вачах бліснуў агеньчык ні то радасці, ні то трывогі.

— Можа што непрыемнае здарылася? — запытаў дырэктар.

— Запрашаюць у акадэмію чытаць курс лекцый па вінаградарству. Але ці здолею я?

— Чаму-ж не здолееш? — падбадзёрыў агранома дырэктар.—Ты-ж у нас гэтак напрактыкаваўся, што хоць у Крым цябе пасылай, і там не схібіш.

— Гэта вам так здаецца, — адказаў на развітанне Мельнік, а, прышоўшы дадому, ён урупіўся ў свае дзённікі, у якія ён кожны дзень запісваў нагляданні над тым, як паводзіць сябе на беларускай зямлі поўдзённы госць — вінаград.

Вясной 1952 года Навум Мельнік, скончыўшы пладова-агародні факультэт, з дыпломам агранома паехаў у Пружаны. Тады сябры яму раілі адпачыць хоць крыху пасля стольскіх год вучобы. Але што адпачынак! Хутчэй хацелася туды, у вінаградныя лозы. Ён там два разы быў на вытворчай практыцы, у часе якой дасканала вывучыў спосабы вырошчвання саджанцаў вінаграду ва ўмовах Беларусі. Карцела хутчэй пабачыць сваіх «выхаванцаў», якіх дыпламант Мельнік леташняй восенню старанна ўкрываў, хаваючы ад зімовай сцюжы і марозаў.

Маладога агранома сустрэлі ў соўгасе ветла, гасцінна. Усе спадзяваліся, што ён дапаможа знайсці шляхі павышэння ўраджайнасці беларускага вінаграду. Старшы аграном соўгаса Віктар Антонавіч Зонаў, які сам доўгі час шукаў лепшых спосабаў вырошчвання вінаграду, асабліва быў рады прыезду Мельніка. Удвох яны, пасля доўгіх роздумаў, парашылі, наперакор існаваўшай думцы аб непрыгоднасці прымянення прышчэпак вінаграду ва ўмовах Беларусі, праверыць гэты метад на плантацыях соўгаса. З хваляваннем чакалі з'яўлення бутонаў, цвіцення і, нарэшце, самога ўраджаю. І дачакаліся. Руплівая творчая праца апраўдала сябе. Выраслі плады на пасынках.

Аграном Мельнік не толькі клапаціўся пра тое, каб вырасціць у соўгасе добры вінаград. Яму хацелася, каб гэты «поўднёвы госць» стаў жыхаром па ўсёй нашай рэспубліцы, тым больш, што з калгасаў Брэсцкай, Мінскай, Гродзенскай абласцей пачалі паступаць заяўкі на набыццё саджанцаў. А дзе-ж іх узяць? Як іх вырошчваць? Шмат спрачаліся па гэтаму пытанню спецыялісты. Думаў над гэтым і Навум Мельнік, яшчэ ў акадэміі, калі ён з'яўляўся членам навукова-даследчага гуртка «Мічурынец». Тады ён правёў шмат доследаў і толькі за год да сканчэння акадэміі знайшоў тое, чаго шукаў. Мельнік прапанаваў садзіць пасынкі вінаграду ў баразны з нахілам у поўночны бок, так, каб тая частка іх, што ў глебе, добра прагравалася. Доследы на вопытных плантацыях акадэміі далі добрыя вынікі. Свой новы спосаб аграном выпрабаваў на плантацыях соўгаса.



У першы беларускі вінаградарскі соўгас прыязджала і прыязджае шмат гасцей; яны едуць за парадамі, за кансультацыямі. Многія маладыя калгаснікі заставаліся надоўга на плантацыях, каб з цягам часу вярнуцца ў свае калгасы ўжо вопытнымі вінаградарамі. Навум Мельнік дапамагаў ім усім. Ён не толькі сам любіць гэтую справу, а і прывівае густ да яе другім. Былая студэнтка акадэміі Якубеня ў мічурынскім гуртку вывучала вопыт пружанскіх вінаградараў. У леташнім годзе яна трапіла ў соўгас на практыку. Пры дапамозе Мельніка яна ўнесла шмат новага ў апылкаванне вінаграду — вынайшла універсальны апылкавацель. Цяпер Якубеня працуе ў Давыд-Гарадоцкім раёне — яна закладвае там першыя плантацыі беларускага вінаграду.

Навум Мельнік, радавы савецкі аграном, стаіць за кафедрай Акадэміі. Ён чытае студэнтам лекцыю аб вырошчванні беларускага вінаграду. І тое, што ён гаворыць — гэта не толькі тэарэтычныя палажэнні. Не, ён гаворыць пра тое, што праверана вопытам, жыццём. І таму так упэўнена гучаць яго словы:

— Вінаград — гэты поўднёвы госць—хутка перастане быць госцем на нашай беларускай зямлі.

**Н. КУЧУК, Ул. БЯЛЯЎСКІ.**



# ЗНАХОДКА

**Ул. СЯРПКОЎ**

Мал. Ю. Пучынскага.

У галоўнага рэжысёра ішло абмеркаванне эскізаў дэкарацый для чарговага спектакля. У п'есе дзея адбывалася ў чатырох кабінетах, і калі іх эскізы паставілі побач, то ўсім стала ясна, што гэта адна і тая-ж песня на чатыры лады. Мастак мабілізаваў усю сваю фантазію, аднак пазбегнуць аднастайнасці не здолеў.

— Як-жа ўсё-такі быць? — занепакоіўся галоўны рэжысёр. — Павел Іванавіч, — звярнуўся ён да аўтара п'есы, — можа вы прыдумаеце што-небудзь, а?

— Хто яго ведае... — адказаў аўтар, уставіўшыся ў кут. — У мяне, прызнацца, было спачатку пяць кабінетаў. Быў яшчэ кабінет міністра. Гэта я ўжо скараціў міністра.

— Ціка-ава... — працягнуў мастак і прыкурыў чарговую папяросу. — А можа, кабінет парторга абсталяваць пад такую... быццамбы чытальню? Га? Паставіць пабольш шафаў з кнігамі... павесіць карту...

— І што-ж тады атрымаецца? — спытаў пастаноўшчык п'есы. — Атрымаецца, што на такім вялікім заводе няма спецыяльнага памяшкання для чытальні?..

— Будзе тады проста больш сталоў і крэслаў у тым-жа кабінеце, — заўважыў галоўны рэжысёр.

Мастак ахутаўся воблакам дыму і пакутліва прыдумваў новы варыянт. У гэты час прыадчыніліся дзверы, і ў кабінет асцярожна заглянуў асістэнт пастаноўшчыка, малады рэжысёр Куманькоў. Ён ездзіў на завод для кансультацыі па тэхнічных пытаннях і спазніўся на абмеркаванне. Прышоўшы знадворку, ён закашляўся ад дыму і зачыніў дзверы. Пачуўся смех. Адкашляўшыся ў калідоры, Куманькоў зайшоў у кабінет і нясмела сеў на крэсла ля дзвярэй. Ад усёй яго істоты веяла сарамлівасцю маладосці і сціпласцю. Гэта асабліва адчувалася цяпер, у прысутнасці старэйшых таварышаў па рабоце. Куманькоў паклаў сваю тонкую папку на калені і пачаў прыслухоўвацца да гаворкі.

«Так я і ведаў», — падумаў ён, калі зразумеў, аб чым ішла размова.

Яшчэ калі ён чытаў п'есу першы раз, яму кінулася ў вочы мноства кабінетаў. Ужо тады ў яго з'явілася слушная прапанова, але ён усё неяк не адважваўся сказаць аб гэтым пастаноўшчыку спектакля. Цяпер пачуццё праклятай баязлівасці змагалася ў ім з жаданнем выказаць сваю думку. «Але-ж, магчыма, ужо тут прапаноўвалі тое, аб чым я хачу сказаць?» — сумляваўся Куманькоў, яшчэ і яшчэ раз абдумваючы сваю прапанову і прабягаючы вачыма па эскізах кабінетаў. Выступіць і атрымаць ухвалу было для яго пытаннем уласнай годнасці, пытаннем прызнання яго як творчай адзінкі. У тэатры ён працаваў нядаўна, самастойна яшчэ нічога не ставіў, апрача дыпломнага спектакля. Ставіцьжа дыпломны спектакль было куды лягчэй! Вядома, больш адказнасці, затое ініцыятыва ў сваіх руках.

— Нешта доўга мы топчамся на адным месцы, — уздыхнула Марыя Васільеўна, пажылая актрыса на ролі маладых гераінь. Яна сядзела ў мяккім крэсле і вязала дзіцячую панчошку. — Бог з імі, з кабінетамі. Іграць добра трэба.

— Гэта само сабой, а тое само сабой, — павучальна заўважыў галоўны рэжысёр. Ён паімкнуўся сказаць афарызм, — гэта было яго слабасцю, але афарызм не атрымаўся.

— Як гэта «бог з імі»? — абурылася маладая актрыса Ліна Шчаглова. У мінулым годзе на аглядзе творчай тэатральнай моладзі яна атрымала дыплом першай ступені і цяпер заўсёды старалася хоць чым-небудзь падкрэсліць, што яна ўсё-ж такі вышэй сваіх тэатральных равеснікаў. Ліна баялася, што абмеркаванне скончыцца, а яна так і не здолее што-небудзь прапанаваць. — Як гэта «бог з імі»? — паўтарыла яна. — Трэба зрабіць, каб было лепш.

— Дык зрабі, мілая, — адказала Марыя Васільеўна, не адрываючыся ад вязання.

Пасля гэтых слоў Ліне нічога не заставалася, як толькі ўнесці важную прапанову, і яна, сціснуўшы рукамі падлакотнікі крэсла, пачала напружана думаць.

— Можна мне... — зрывістым голасам сказаў Куманькоў і ўстаў. — Па-мойму, можна перанесці пасяджэнне партбюро завода ў кабінет дырэктара. Пасяджэнне-ж там па чыста тэхнічнаму пытанню, так што, мне здаецца, гэта будзе выглядаць зусім натуральна... І потым... калі... калі зрабіць невялікія змены ў тэксце, можна не паказваць кабінет галоўнага інжынера, а перанесці яго сцэну з галоўным канструктарам таксама ў кабінет дырэктара. Як вы думаеце, Павел Іванавіч? — звярнуўся ён да аўтара.

Аўтар глыбокадумна ссунуў бровы і працягваў глядзець у кут. Куманькоў з надзеяй і адчаем на твары абводзіў усіх позіркам.

«Нічога я, здаецца, сёння не прыдумаю, — круцілася ў галаве Ліны Шчагловай. Яна прыкусіла губу. — А што калі падтрымаць Куманькова? Здаецца, нядрэнная прапанова». Яна ўжо адкрыла рот, але...

— І што-ж гэта атрымаецца? — сказаў пастаноўшчык. — Як быццам у парторга такога завода няма свайго кабінета?..

Справа ў тым, што праз два месяцы тэатр павінен быў ехаць на гастролі ў Маскву. Пастаноўшчыку хацелася, каб афармленне спектакля выглядала найбольш паважна і багата.

— Калі-б так можна было зрабіць, то, напэўна, Павел Іванавіч сам-бы так напісаў, — выразна і, як паказалася Куманькову, занадта гучна заўважыла Ліна.

Куманькоў адчуў, як гарыць яго твар. Ён разгублена сеў і машынальна стаў развязваць і зноў завязваць шнурок ад папкі. «І трэба-ж было мне загаварыць, — папракаў ён сябе. — Рады ў гады збяруся выступіць і вось на табе — зноў праваліўся! І народу-ж гэтульні!»

Галоўны рэжысёр ўсміхнуўся. «Эх, молада-зелена, — падумаў ён. — Завядзецца ў галаве якаянебудзь ідэйка і адразу давай яе на свет божы. І чаму іх толькі ў інстытуце вучаць?»

— Вы, таварыш Куманькоў, — сказаў ён з бацькоўскай усмешкай, — хочаце думаць па прынцыпу «геніяльнасць у прастаце». Аднак не ўсё простае геніяльна. Ці не так, а?

Куманькову хацелася праваліцца скрозь зямлю. Але калі ён крыху супакоіўся, розум яго

пачаў упарта задаваць адно і тое-ж пытанне: «Чаму? Чаму не прынялі яго прапановы?» Яму здавалася, што яна слушная, што за яе павінны былі ўхапіцца. Атрымалася-ж чорт ведае што!

«І навошта гэты бацькоўска-заступніцкі тон, размова аб геніяльнасці? Урэшце, усе мы не геніі», — думаў ён, зусім па-дзіцячаму зморшчыўшы твар.

Зазвінеў тэлефон. Гэта званіў кансультант з Масквы, рэжысёр аднаго з маскоўскіх тэатраў. Перагаварыўшы з кансультантам, галоўны рэжысёр прапанаваў закончыць абмеркаванне.

— Потым, магчыма, прыдзе што-небудзь у галаву, — супакоіў ён усіх на развітанне.

У калідоры засмучонага Куманькова дагнаў мастак.

— Ведаеце, вы нядрэнна прыдумалі, — шчыра сказаў ён. — Трэба толькі абдумаць добра. Між іншым, аўтар можа не згадзіцца. Да пабачэння!

Праз тыдзень прыехаў кансультант. У тэатры пачалася гарачая пара. Сваёй энергіяй кансультант натхніў усіх работнікаў тэатра. Пачаліся цікавыя рэпетыцыі, на якія ахвотна прыходзіла ўся трупа.

Неяк аднаго разу, прагледзеўшы на сцэне рэпетыцыю ўсяго спектакля, так званы «прагон», кансультант папрасіў спусціцца ўсіх у залу і пачаў рабіць заўвагі, але, па раскладу, на сцэне павінна была пачацца рэпетыцыя другога спектакля, таму вырашылі ісці ў кабінет галоўнага рэжысёра. Першымі ішлі кансультант, галоўны рэжысёр і пастаноўшчык. За імі — Ліна Шчаглова, Куманькоў і ўдзельнікі спектакля. Ліна, як і заўсёды, старалася трымацца бліжэй да начальства. Цяпер яна ўвесь час круцілася пад рукою ў кансультанта, каб пры малейшай магчымасці выказаць яму сваё захапленне і глыбокую пашану. Праходзячы па файэ, дзе дэкаратары дафарбоўвалі злашчасны чацвёрты кабінет, кансультант спытаў у пастаноўшчыка і галоўнага рэжысёра:

— Што гэта фарбуюць? Кабінет парторга?

— Так-так, — адказаў галоўны рэжысёр. — Гэта кабінет парторга.

— Дарэчы, вельмі многа кабінетаў у п'есе. Вы не гаварылі з аўтарам? — звярнуўся ён да пастаноўшчыка.

— Гаварыў, нічога пакуль што не можа прыдумаць.

— Ды тут і прыдумваць, памойму, няма чаго. Трэба перанесці пасяджэнне партбюро ў кабінет дырэктара, а сцэну галоўнага інжынера і галоўнага канструктара таксама туды. Запрасіце сёння на вечар аўтара. Мне думаецца, што ён згодзіцца. Гэта-ж у яго інтарэсах.

— Добра, — сказаў пастаноўшчык, абмінаючы вядро з фарбай.

— Вы чулі? — звярнулася Ліна да Куманькова. — Як гэта разумна! — ужо аж залішне гучна прамовіла з падкрэсленым захапленнем яна і паглядзела рэжысёру ў вочы.

— Слухайце, вось гэта дык думка! — яшчэ больш пачаў захапляцца галоўны рэжысёр, ківаючы галавой у бок кансультанта. — Гэта-ж шчаслівая, геніяльная знаходка! А мы думалі, гадалі... Вось дык праўду людзі гавораць: геніяльнасць у прастаце, — закончыў ён афарызмам.

Куманькоў уздыхнуў: усё-ж такі дыпломны спектакль куды лягчэй было ставіць.

Пераклад з рускай мовы.





Ніл ГІЛЕВІЧ

## ВЯСЁЛАЯ БЫЛЬ

Помню, раз у хату нашу
Пагранічнік завітаў.
Помню, доўга пра Наташу
У бацькоў маіх пытаў.

Потым — добра помню тое —
Разышлася ўся сям'я.
Засталіся ў хаце трое:
Камандзір, сястра.... і я.

«Пра шпіёнаў мо' раскажа», —
Думаў я. Аж тут: «Браток, —
Падышла ка мне Наташа, —
Ты забыўся пра каток!»

Прамаўчаў я — і ні з месца.
Дык і госць тут падступіў:
— А цукеркі любіш есці?
Грошы на, ідзі купі!

«Не, — рашыў я, — не паддамся
Ні адной спакусе іх».
Ды і хто-б там здагадаўся,
Што ім добра і ўдваіх!..

Шмат гадоў прайшло.
Даўно ўжо
Камандзір той — швагер мой
Да каханай, да прыгожай
Неяк ездзіў я вясной.

Думаў: стрэну, прыгалублю...
А калі ўзышоў на двор,
Мне настрэчу разам з любай —
Пяць малых яе сясцёр!

Разгубіўся я ў палоне
Мілай будучай радні.
Пагранічніка успомніў
І свайго маленства дні.

За сустрэчу — не крыўдую!
А каб пафас не прапаў —
Я на рукі ўзяў малую
І пры ўсіх пацалаваў.



М. СКРЫПКА

## КАХАННЕ ПА РАЗЛІКУ

Закахаліся ў багацце...
Іх звяла адразу-ж сваццproperly.

Кожны з іх раздумваў мала,
Бо адны ў іх ідэалы...
Ён пайшоў у яе хату,
Яна выйшла за... зарплату.

У каханні пакляліся,
А праз месяц... разышліся:
Перадумаў, кажуць, тата
І ў пасаг не даў ёй хату.







## Сатырычныя малюнкі

На трактарным і аўтамабільным заводах сатырычныя выпускі-маланкі сталі масавай з'явай. Яны выпускаюцца амаль у кожным цэху. Камсамольскі штаб па барацьбе за рытмічнасць вытворчасці трактарнага завода перыядычна выпускае сатырычныя ілюстраваныя газеты: «Не гледзячы на асобы», «Калючы канвеер», «На пераплаўку», «Бадлівы зубронак», «Злазь — прыехалі!», «На рогі» і шмат іншых. Сатырычныя маланкі выпускаюцца неадкладна пасля выяўлення недахопаў. Найбольш праяўляе сябе ў гэтай справе моладзь. З ліку маладых рабочых выраслі здольныя карыкатурысты, майстры шаржу, гумарэскі.

Вось «Мужычок з вузялок» (верхні здымак) падганяе коніка, які вязе воз з дрывамі. У чым справа? Справа ў тым, што начальнік чыгуначнага цэха трактарнага завода т. Касцюковіч выгрузіў дровы не там, дзе трэба. Прыходзіцца рабіць лішняе — на дапамогу чыгуначнаму транспарту заклікаць і конны...

Яшчэ адна карыкатура ўжо ў адрас кіраўнікоў рамонтна-механічнага цэха, якія затрымліваюць рамонт абсталявання. Яны не скупяцца на абяцанкі, і абяцанак гэтых вырасла ўжо цэлая куча (другі здымак).

Сатырычныя выпускі-маланкі зарэкамендавалі сябе вострай, надзейнай зброяй. Факты, пададзеныя ў іх, абмяркоўваюцца на партыйных, камсамольскіх і профсаюзных сходах, на пасяджэннях бюро. Адказы аб рэагаванні часта друкуюцца ў шматтыражных газетах «Аўтазаводзец» і «Трактар».

**Р. ПЛАТОНАЎ.**

Фота Л. Бондара.

# ШАХМАТЫ

пад рэдакцыяй майстра спорту **А. СУЭЦІНА**

## ШАХМАТНЫЯ ТЭРМІНЫ

Дакладны змест шахматных тэрмінаў цікавіць многіх. Спынімся на тэрмінах, якія часта сустракаюцца ў шахматнай практыцы, але многім мала вядомы.

1. **Пат** — становішча, калі ігрок, якому належыць зрабіць ход, не можа зрабіць ніякага ходу, пры якім-бы яго кароль не трапіў пад удар, прычым яго кароль **не стаіць** под шахам (ударам). Іншымі словамі, становішча, пры якім для ігрока няма **ніводнага дазволенага правіламі** ходу.

Той, хто атрымаў пат, **не прайграў** партыю, таму што праігрывае толькі той, хто атрымаў **мат,** а для гэтага патрэбна, каб кароль знаходзіўся пад шахам. Гэтага няма ў выпадку пата, і партыя лічыцца нічыёй. Магчымасць пата значна ўзбагачае шахматную ігру. Асабліва значэнне мае ён у канчатку партыі («эндшпілі»). Шмат якія партыі могуць быць выратаваны толькі дзякуючы пату, калі адзін з партнёраў, дамогшыся перавагі, забывае аб магчымасці яго і траціць поўачка. Так «пацярпеў» гросмайстар Керэс (белыя) у партыі з майстрам Хаямавым (XVI першынство СССР). Прыводзім партыю.



Апошні ход Хаямава (1. ... Фh3+) звязаны з пастаўкай «лавушкай», у якую трапяць белыя. Наступны ход Керэса: 2. Крg1? (Было-б правільна 2. Кре2 з шанцамі чорных на выйгрыш.) 2. ... Фg4+!! (Удар, падобны грому сярод яснага неба! І нічыя гарантавана чорным, таму што пасля 3. fg — пат, а 3. Крf1 Ф : а4 вядзе да «мёртвай» нічыёй.)

Белыя вымушаны былі згадзіцца на нічыю.

Прапануем чытачам самім рашыць невялікі эцюд на гэтую тэму.* Эцюд зроблены вядомым савецкім майстрам Н. Грыгор'евым.



Белыя пачынаюць і робяць нічыю.

2. **Цугуванг** — гэта абавязак зрабіць ход. У большасці выпадкаў гэта, канешне, выгадна. Але бываюць пазіцыі ў канцы ігры, калі неабходнасць зрабіць ход вядзе да пройгрышу (у той час, як «стаянне» на месцы магло-б даць нічыю).

Наступны эцюд заслужанага дзеяча мастацтваў А. Троіцкага — яркая ілюстрацыя «цугуванга».

З першага погляду здаецца, што нічыя чорным забяспечана, таму што адзін конь не матуе. Аднак



наяўнасць у чорных пешкі і абмежаванае прасторавае становішча караля дазваляюць белым ажыццявіць манеўр, які вядзе да мата.

Было зроблена: 1. Крf3! Крh1 (Адзіны магчымы ход.) 2. Крf2! Крh2, 3. Кd4! Крh1, 4. Кf5 Крh2, 5. Кe3 Крh1, 6. Кf1.

Калі-б чорным не абавязкова было хадзіць, то нічыя ім гарантавана. Але **цугуванг** уступае ў свае правы, і пасля 6. ... h2 даецца мат — 7. Кg3×!

* Тэрмін прысылкі рашэнняў — адзін месяц пасля выхаду часопіса з друку.

# КРАСВОРД

**Склаў П. СЫСУН.**

**Па гарызанталі:** 3. Двухскладовая стапа. 6. Прыбор, рэзаніруючы на які-небудзь гук. 9. Башкірскі народны герой. 10. Від спорту. 15. Акіянскі порт Францыі. 16. Вадзяны рухавік. 17. Электрамагнітны прыбор. 20. Польскі астраном. 21. Прыбор для атрымання азона. 22. Дыпламатычнае пасланне. 24. Ручная зброя. 26. Горад у Афрыцы. 27. Посуд. 28. Балота. 31. Ваенная база Англіі. 32. Легендарны герой А. М. Горкага.

**Па вертыкалі:** 1. Карбанат калія. 2. Пасада ў вышэйшай навучальнай установе. 4. Твор Ф. Гладкова. 5. Пустыня ў Афрыцы. 7. Элемент з групы галагенаў. 8. Нацыянальнасць. 11. Возера ў Венгрыі. 12. Сельскагаспадарчая машына. 13. Паэт савецкай эпохі. 14. Краіна народнай дэмакратыі. 18. Адрэзак часу. 19. Рака ў Азіі. 23. Народны пясняр у Казахстане. 24. Савецкая рэспубліка. 25. Галава. 26. Від мастацтва. 29. Продак тонкаруннай мерынасавай авечкі. 30. Персанаж з паэмы А. С. Пушкіна «Цыганы».




**АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, змешчаны ў № 4 часопіса.**

**Па гарызанталі:** 4. Канструкцыя. 9. Нарвал. 11. Полька. 13. Арка. 15. «Аіда». 17. Тэрор. 18. Галка. 21. Этап. 22. Кантата. 23. Каза. 24. Торт. 26. Трактат. 29. Ёлка. 33. Аміяк. 34. Нарва. 35. Трап. 37. Уран. 39. Басфор. 40. Орлеан. 41. Матэрыялізм.

**Па вертыкалі:** 1. Школа. 2. Транспарт. 3. Лямпа. 5. Сена. 6. Кура. 7. «Палтава». 8. Украіна. 10. Варта. 12. Ліван. 14. Курск. 16. Імгла. 19. Тэатр. 20. Гапак. 25. Ржэцкая. 26. Такса. 27. Кулінарыя. 28. Тэнар. 30. Ліманад. 31. Тарыф. 32. Марал. 35. Трумо. 36. Пюрэ. 37. Урал. 38. Норма.

**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, ЮРЫ ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара—93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара—93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі—93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый—93-892, аддзел пісем—93-854.

Рукапісы, прысланыя ў рэдакцыю, не звяртаюцца.

Здадзена ў набор 10.IV.55 г. Падпісана да друку 28.IV.55 г.
Фармат паперы 70×108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб.

АТ 04009. Заказ 244.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

